
Валянціна Андрасюк ➔3

# Ніва

## ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Тканая гісторыя ➔9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 43 (3311) Год LXIV | Беласток, 27 кастрычніка 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Шляхам прыдарожных




# каплічак у гміне Сухаволя

У гміне Сухаволя іх каля ста дваццаці. Прыдарожныя каплічкі прайшлі інвентарызацыю, а найцікавейшыя з іх можна пабачыць на фотавыстаўцы. У сухавольскім Цэнтры трох культур падвялі вынікі праекта „Шляхам прыдарожных каплічак". У час мерапрыемства можна было таксама паглядзець фільм, які неўзабаве з'явіцца на сайце Цэнтра. «Праект перш за ўсё паказвае тоеснасць таго месца», — падкрэсліў бургамістр Сухаволі Міхал Матыскель.

— Гэты праект мае важныя мэты: папершае, дакументацыя таго, што знаходзіцца на тэрыторыі гміны, але таксама паказанне кім мы ёсць, скуль мы, якая была наша гісторыя і як важнай у нашым жыцці была рэлігія, малітва — толькі на гэта мы маглі разлічваць, — сказаў бургамістр у час падвядзення праекта.

Праект „Шляхам прыдарожных каплічак" быў фінансаваны Нацыянальным цэнтрам культуры ў рамках праграмы «EtnoPolska 2019», але таксама самі жыхары гміны дапамагалі пры дакументацыі каплічак.

— Перш за ўсё праект дазволіў на інвентарызацыю ўсіх каплічак. На тэрыторыі гміны Сухаволя іх 120, але напэўна гэта яшчэ далёка не ўсе каплічкі, — сказаў каардынатар праекта Давід Гудэль. — З гэтых ста дваццаці мы супольна з Артурам Гаўлам з Падляшскага музея народнай культуры выбралі дзесяць, якія ў найбольшай ступені адлюстроўвалі разнастайнасць усіх каплічак нашай гміны.

Дзесяць сфатаграфаваных каплічак стварылі вандроўную галерэю. Фотавыстаўка вісела на плоце ў кожнай вёсцы, у якой знаходзілася сфатаграфаваная каплічка. Былі гэта вёскі Хмялёўка, Кярсноўка, Паламін, Альшанка, Карповічы, Моргі, Яцьвезь, Новая Хадароўка, Дубасеўшчына і Сухаволя. Першая з выбраных каплічак стаіць у Хмялёўцы. Па словах жыхароў, яна была пастаўлена перад крыжам, які стаіць побач, гэта значыць у 1873 годзе. Крыж быў прывезены жыхарамі з былой металургічнай фабрыкі ў Штабіне ў час эпідэміі. Унутры драўлянай капліцы знаходзіцца выява Панны Марыі і святога Антонія Падуанскага.



— Стандартныя — зашклёныя, некаторыя з асвятленнем, іншыя без святла. Тут таксама шмат каменных каплічак, але і мураваных, — падкрэслівае Давід Гудэль. — Гэта вельмі цікава, бо, параўноўваючы тое, што было два месяцы таму, з пункту гледжання ведаў пра капліцы Сухаволі мы зрабілі велізарны крок наперад. Вельмі важным эфектам праекта з'яўляецца дакументальны фільм, які будзе даступны для ўсіх на нашым сайце.

У час падвядзення вынікаў праекта можна было паглядзець мультымедыйную прэзентацыю, дзе былі паказаны не толькі каплічкі, але і тры святыя дубы, на якіх вісяць невялікія крыжы. Паводле жыхароў гміны, крыжы не толькі былі доказам веры, але таксама ахоўвалі дрэва перад высечкай. Таксама на некаторых каплічках па сёння можна сустрэць старыя кавальскія ўніяцкія крыжы. Нібыта яшчэ ў час Першага перапісу насельніцтва 1921 года ў Старой Хадароўцы ўніятамі запісалася некалькі дзясяткаў чалавек.

— Мы працавалі ў 43 вёсках і знайшлі 120 каплічак, — кажа Давід Гудэль. — Праект быў рэалізаваны на працягу трох месяцаў і хаця сёння маем падвядзенне яго вынікаў, я ўпэўнены, што мы надалей будзем працягваць працу па дакументацыі каплічак. Так як я ўжо сказаў, напэўна яшчэ не ўсё ўдалося нам знайсці. Напэўна будуць да нас прыходзіць інфармацыі пра каплічкі, якіх мы не спісалі.

Дзякуючы праекту ўзнікла дзесяць мініяцюр каплічак з Сухавольскай гміны, якія зараз можна аглядаць у Цэнтры трох культур. Іх аўтарам з'яўляецца Марк Шышко з Хвашчэва. Ён таксама аўтар скульптур постацей святых, напрыклад, фігуркі Яна Непамуцкага.

— Я не чакаў такой прапановы, — прызнаецца скульптар, Марк Шышко. — Давід Гудэль запрапанаваў, каб менавіта я ўзяўся зрабіць мініяцюры дзесяці каплічак з гміны Сухаволя. Прызнаюся, што гэта быў для мяне выклік. Дагэтуль я працаваў толькі з дрэвам, і сапраўды люблю гэтую працу. А тут мне трэба было крыху заняцца металапластыкай, з якой я ніколі не меў дачынення. Першапачатковыя мініяцюры мелі быць яшчэ меншыя, чым зараз можам пабачыць, але думаю, што мне ўдалося захаваць іх прыгажосць.

Падвядзенне вынікаў праекта „Шляхам прыдарожных каплічак" прайшло 20 кастрычніка, а напярэдадні, 19 кастрычніка, Касцёл ушаноўвае блаславёнага мучаніка ксяндза Ежы Папялушку, які быў забіты камуністычнымі агентамі за тое, што вучыў людзей хрысціянскім паводзінам не толькі ў асабістым, але і ў грамадскім жыцці. Сёлета споўнілася 35 гадоў з дня смерці выдатнага ўраджэнца гміны Сухаволя.

— Якраз 19 кастрычніка прайшла круглая гадавіна пакутніцкай смерці ксяндза Ежы Папялушкі, — сказаў бургамістр Сухаволі Міхал Матыскель. — Тут, у Цэнтры трох культур, знаходзіцца мэбля з яго памяшкання. Ксёндз Ежы спыняўся пры гэтых каплічках. Сярод дзесяці каплічак ёсць і тыя, якія памятаюць кс. Ежы. Вось, яго брат успамінаў, што Юрак, ідучы ў школу, выходзіў раней з хаты, бо па дарозе маліўся пры каплічках і заходзіў у касцёл.

Бургамістр Сухаволі неафіцыйна сказаў „Ніве", што ўжо плануецца шлях па слядах кс. Ежы Папялушкі.

— Хочам, каб сляды ксяндза Ежы захаваліся. Гэта каплічкі, але і камень, на якім сядзеў і мяняў боты на лепшыя, каб даўжэй служылі. Яго родная вёска Акопы ў будучыні напэўна будзе мэтай шматлікіх паломніцтваў. Фонд імя кс. Ежы Папялушкі хоча там пабудаваць музей, а мы хочам паказваць паломнікам асабліва блізкія месцы для ксяндза Ежы, бо гэта месцы, у якіх можна задумацца, памаліцца і адчуць блізкасць блаславёнага.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**





# Трыццаць гадоў у чарзе

Едучы з Гродна ў Беласток, быў у мяне час падумаць пра тленнасць і марнасць нашага жыцця на гэтым свеце. Часу звычайна ніколі няма. Але вось у чым парадокс, як сказаў бы адзін мой даўні студэнцкі прыяцель — на мяжы ён, гэты час, нібы бярэцца ніадкуль. Бо калі едзеш няшчасныя 80 кіламетраў маршрутным рэйсам і маеш на гэта ажно 4 гадзіны, то час неверагодным чынам расцягваецца. Мяжа — гэта як партал у нейкае іншае вымярэнне, дзе пануюць свае законы і зусім адрозны адлік часу. Мяжа — гэта як латарэя, дзе можна толькі прайграць час, нават пераехаўшы больш-менш паводле раскладу руху.

Так падумалася, што за тры дзесяцігоддзі, як адкрылася гэтая мяжа, колькі чалавека-гадзін чакання пры яе пераездзе патрачана людзьмі. Шкада, што няма такой статыстыкі. Гадзіны, суткі, тыдні, месяцы складваюцца ў гады і агулам напэўна ў тысячы гадоў. Агульная лічба гэтага стаяннячакання проста гіганцкая. Час, які людзі маглі патраціць на сям'ю, на стваральную працу, на культурны адпачынак, паглынае ненажэрны бог Янус, які, паводле старажытнарымскай міфалогіі, вызначае лёс чалавека.

За прыблізна трыццаць гадоў, калі для насельнікаў Беларусі адкрылася мяжа на Захад, мы ніколькі не наблізіліся да Еўропы. Хутчэй наадварот. Брусельская бюракратыя ўсё больш стварае заслон для беларусаў. Абяцанкі таннейшых віз так і застаюцца пустымі абяцаннямі. І вось ужо наадварот, кошт гэтых віз хутчэй усяго ўзрасце, хоць яны і так дастаткова дарагія. Проста падлічыць, што калі сям'я складаецца, прыкладам, з чатырох чалавек, то заплаціць за 4 візы трэба ажно 240 еўра — сума вельмі вялікая па мерках заробкаў у Беларусі. Дык гэта толькі за візы, а яшчэ за ўсялякія фота, за страхоўкі, за афармленне дакументаў у візавым цэнтры. Так што для многіх жыхароў Беларусі наведаць нават бліжнюю Польшчу становіцца праблемным, не кажучы ўжо пра краіны Заходняй Еўропы.

Стаўленне Еўрасаюза да беларусаў таксама ўсё пагаршаецца. Узяць хоць бы тыя ж адбіткі пальцаў. Можна зразумець, што іх трэба здаваць, каб былі ў адпаведнай базе. Але ж гэтую зняважлівую працэдуру чалавек павінен праходзіць за кожным разам, пры кожнай паездцы. Натуральна, што калі ў памежнікаў узнікаюць нейкія падазрэнні, то можна і спраўдзіць гэтыя адбіткі. Але чаму гэта трэба рабіць за кожным разам? А апаратура памежнікаў часта не спрацоўвае. Пры маёй апошняй паездцы сярод пасажыраў была адна старэнькая бабулька, адбіткі пальцаў якой ніяк не адлюстроўваліся. У выніку рэйс затрымаўся на паўгадзіны. Пазней высветлілася, што напярэдадні бабуля ўвечары доўга церла моркву на тарцы, вось пальцы крыху і дэфармаваліся. Але ж пашпарт ёсць, віза ў парадку, на халеры яшчэ тыя адбіткі? І гэта ў той час, калі ў Еўропу хлынулі дзясяткі тысяч бежанцаў з Афрыкі і Азіі без віз і нават пашпартоў. А вось да законапаслухмяных беларусаў можна прымяняць усё новыя бюракратычныя прычэпкі.

Толькі пераехалі мяжу, маршрутны бусік спыніла транспартная дарожная паліцыя. Апошнім часам такія праверкі ўсё часцей. Зразумела, што трэба змагацца з кантрабандыстамі, але прычым тут рэйсавыя аўтобусы — у іх звычайна ездзяць людзі зусім з іншымі мэтамі, якія нічога не парушаюць, многія едуць на беластоцкі вакзал, каб накіравацца далей. Усё больш людзей едуць апошнім часам на легальную працу ў Польшчы. Ды і ў кіроўцаў з дакументамі ўсё ў парадку. Але ж яшчэ адна неабавязковая праверка і яшчэ мінус дваццаць хвілін.

Мае рацыю ўсё ж мой сябра, які кажа, што калі б Еўропа хацела дапамагчы беларусам, то зрабіла б адно з двух — альбо зусім закрыла б мяжу для грамадзян нашай краіны, альбо адкрыла яе для ўсіх ахвотных, без усялякіх віз. У першым разе тады б жыхары Беларусі хутка памянялі палітычны рэжым у сваёй дзяржаве, у другім — адчулі б сябе паўнацэннымі еўрапейцамі і зноў жа хутчэй здзейснілі б перамены ў Беларусі.

Але пакуль мы па-ранейшаму ў чарзе. Перад намі — нікога, за намі — нікога, але чарга нібы застыла.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Карысці ад чытання Іозефа Рота

Кім быў Іозеф Рот (Joseph Roth)? Мог бы я сумленна напісаць, што п'яніца, журналіст і пісьменнік. Можа, усе геніяльныя пісьменнікі і журналісты былі п'яніцамі, што не дзіўна для мяне, бо быць геніем — гэта няпростае абавязацельства перад грамадствам. Аднак няхай ніхто не думае, што кожны журналіст ці пісьменнік таму п'яніца, што і геній. Я нешта пра гэта ведаю. Але што там! Пакуль што пра Рота... Ён быў п'яніцай з самым цвярозым думаннем сярод сучаснікаў. Можа, не адзіны, але адзін з нямногіх. Ён быў найбольш вядомы сваім раманам «Марш Радэцкага». Асабіста я дагэтуль уражаны, а прачытаў яго амаль 40 гадоў таму. Блін, як баліць час! Але, відаць, калі нешта баліць, чалавек жыве. Іозефу Роту балела ўсё, з дзяцінства, што выпікае з яго твораў. Ён жыў, як Паніска, ге-ге... Асабліва як пісьменнік. У «Маршы Радэцкага» відавочна балеў яму жахлівы канец эпохі, у якую ён урос і з якой ён зросся арганічна і назаўсёды. Мы гаворым тут пра часы імператара Франца Іосіфа, Першую сусветную вайну і падзенне габсбургскага парадку. Рот быў яго вялікім прыхільнікам. У любым выпадку, ён чэрпаў з яго састарэлых каштоўнасцей жыццёва важныя сокі і ў той жа час прарочае перакананне пра канец наступных стагоддзяў, абсталяваных інструкцыяй апакаліптычнага Халакосту і Адраджэння. Сёння, у эпоху прымітыўнага папулізму, здаецца, што яго інтуіцыя сягнула глыбей. Я думаю, што гэта не эпохі, не светы, па яго словах, адзначаныя Халакостам і Адраджэннем канца і пачатку, але чалавечыя пакаленні, якія прыходзяць і сыходзяць і якія кожны раз у Вялікіх Словах уласнай эпохі бачаць у канцы сваёй прысутнасці толькі размытыя літары.

У той час, калі з юнацкім захапленнем я праглынаў вялікімі кусамі канон сусветнай літаратуры, я аддаў перавагу Роту над фаўстаўскага Гётэ, чарадзейнага Мана і Франца Кафку, які прадказваў сучасную цывілізацыю інтэрнэту і гейту; а нават, нягледзячы на маю схільнасць да славянскіх смакаў, вышэй Дастаеўскага і любімага Буніна. Скажу больш — нават калі мае літаратурныя выбары былі больш інтэлектуальна спелыя, чым эмацыянальна шкалярскія, я ўпарта падымаў яго, — але, прызнаюся, даволі коратка — таксама вышэй Пруста ці Джойса. Нарэшце родны польскі Гамбровіч увайшоў у маё жыццё. Ён захапіў мяне сваім «Транс-Атлантыкам». Адзін дзіўны пасус у ім, які, на мой погляд, з'яўляецца голасам апазіцыі да ідэалагізаванага патрыятызму. Гамбровіч, выплюнуты польскім асяроддзем на эміграцыю ў Аргенціну, убачыўшы карабель, які пакідаў набярэжныя Буэнас-Айрэса, поўны захопленых польскіх добраахвотнікаў, якія жадаюць змагацца за незалежнасць сваёй Радзімы ў 1939 г., так апісаў свае думкі: «А плывіце ж, плывіце, Землякі, да Народа вашага святога хіба Праклятага! Плывіце да Пачвары тае св. Цемрыва, што ад вякоў здыхае, і здохнуць не можа!.. Плывіце, плывіце, каб яна вам ані Жыць, ані здохнуць не дала, і назаўжды паміж Бытам і Нябытам трымала. Плывіце да размазні вашай святой, каб яна вас далей распоўзвала». Я забытую гэтую цытату прыгадаў праз гады, калі пачаў чытаць калонкі Іозефа Рота, напісаныя ім у 1924-1928 гадах — «Лісты з Расіі» і «Лісты з Польшчы». Рот быў габрэем, паглынутым ва ўсім нямецкай культурай. Ці проста адчувальным чалавекам. Геніем. І, безумоўна, уважлівым назіральнікам за ўзнікаючым у Еўропе нацыянальным ідэалізмам, народжаным у 1919 г. пасля Версальскага дагавора — так распаўсюджваючым надзеяю на самавызначэнне нацый, як выкрышталізоўваючым ідэалагічныя яды ў краінах для іх створаных. Нягледзячы на тое, што ў Расіі, адроджанай бальшавізмам, фашызуючайся Германіі альбо ў Польшчы, забруджанай месіянскім рамантызмам пры ўладзе Пілсудскага, Рот быў усюды карэспандэнтам нямецкамоўных газет. Ён дакрануўся да ўсяго і каштаваў усяго. Не ведаю, колькі разоў ён там напіўся ўшчэнт, гледзячы раней на Халакост эпохі, якая адраджалася перад яго вачыма ў новым пакаленні расейцаў ці палякаў. Я не сумняваюся, што калі б ён прыехаў у сучасную Польшчу, напіўся б да непрытомнасці. Ён убачыў бы тое, што бачыў раней. Як гэта стала, што гісторыя закрунулася ў шыбеніўную пятлю?

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Выбарчыя гонкі (2)

Сёння ў нашай рубрыцы прыгледзімся некаторым выбарчым цікавінкам і нespaдзяванкам, якія мелі месца ў ходзе парламенцкіх змаганняў 13 кастрычніка 2019 года. У сваім папярэднім фельетоне пісаў я пра вялікую колькасць зацікаўленых аддаць свае галасы па-за межамі Польшчы. У суме ў замежных выбарчых участках прагаласавала 292 709 асоб. Тут пераможцам стала Грамадзянская кааліцыя (39,05%) перад Правам і справядлівасцю (25,29%), Левіцай (20,43%), Канфедэрацыяй (11,14%) і ПСЛ (4,10%). Права і справядлівасць выйграла ў Злучаных Штатах Амерыкі і Канадзе, але прайграла ў еўрапейскіх акругах, дзе галасавала значна больш выбаршчыкаў. Для прыкладу ў Вялікабрытаніі 37,38% выбаршчыкаў прагаласавала за ГК і 20,04% за ПіС. У Нямеччыне адпаведна 42,93% і 25,72%, у Ірландыі — 39,07% і 20,70%, у Францыі — 42,91% і 26,85%. У Беларусі на трох выбарчых, консульскіх участках у Мінску, Гродне і Брэсце прагаласавала 320 польскіх грамадзян. Выйграла ГК — 137 галасоў, перад ПіС — 119.

Сярод тых, хто разлічваў на галасы варшаўскіх праваслаўных і польскіх праваслаўных грамадзян, пражываючых па ўсім свеце, быў стартуючы з трыццаць трэцяга месца з варшаўскага спіска Грамадзянскай кааліцыі (галасы з замежжа прыпісаны да варшаўскай акругі) вядомы царкоўны актывіст Аляксандр Васылюк. Атрымаў ён 1016 галасоў, з чаго ў Варшаве 757, а ў замежжы — 259, у тым ліку два ў Мінску. Ягоны вынік паказвае, што ані праваслаўныя Варшавы, ані аднаканфесійныя працоўныя мігранты не далі падтрымкі свайму брату па веры.

З шырокага свету вяртаемся на роднае Падляшша. Дзеля статыстыкі і гістарычнай памяці давайце пералічым пераможцаў і колькасць галасоў, якія яны атрымалі. Нягледзячы на пабольшаную на звыш два мільёны колькасць галасоў для Права і справядлівасці, то ў маштабе і Польшчы, і Падляшскага ваяводства колькасць дэпутатаў не павялічылася. У Сейме маем 235 пісаўскіх абраннікаў, у тым ліку 8 з Падляшша. Усё гэтак атрымалася дзякуючы выбарчаму метаду пераліку галасоў. Самай важнай інтрыгай гэтых выбараў было тое, што ўсе пяць агульнапольскія выбарчыя камітэты перасяклі пяціадсоткавы бар'ер атрыманых галасоў. Таму не было змарнаваных галасоў, што спрэсавала розніцу ў выбарчых выніках. Зацікаўленым хопіць параўнаць выбарчыя вынікі чатырохгадовай даўнасці, каб зразумець хоць крыху сістэму падліку вынікаў. Вось пераможцы з нашага ваяводства ад кіруючай партыі: Дарыюш Піянткоўскі — 63 878 галасоў (у Беластоку звыш 25 тысяч), Яраслаў Зяліньскі — 40 092 (Беласток 3144), Адам Андрушкевіч — 29 829 (Беласток 9946), Лех Калакоўскі — 16 138, Казімеж Гвяздоўскі — 14 101, Аляксандра Шчудла — 12 222 (Беласток 1775), Яцэк Жалек — 12 141 (Беласток 4804), Мечыслаў Башко — 11 060. Апазіцыйная Грамадзянская кааліцыя мае трох паслоў з наступнымі вынікамі: Кшыштаф Трускаляскі — 37 273 (Беласток 22 089), Роберт Тышкевіч 17 185 (Беласток 7436), Яўген Чыквін 14 083 (Беласток 5297). Тут бачым як адзінка на спіску Роберт Тышкевіч прайгравае ў больш чым два разы з Кшыштафам Трускаляскім і апярэджвае Яўгена Чыквіна. Вельмі слабы вынік атрымаў Роберт Тышкевіч у самім Беластоку, што на практыцы абазначаць будзе чарговую, унутрыпартыйную вайну ў Грамадзянскай кааліцыі ў маштабе краіны і ваяводства. Польская сялянская партыя — ПСЛ мае аднаго пасла, лідара партыі ў рэгіёне Стэфана Краеўскага, які атрымаў 13 439 галасоў, з чаго 2119 у самім Беластоку. Са спіска гэтай партыі гадамі ў Сейм пакуль беспаспяхова балатуецца вядомы беларускі самаўрадавец Мікола Яноўскі, які гэтым разам набраў 2045 галасоў для сваёй партыі. Саюз левых дэмакратаў атрымаў адзін мандат у асобе лідара спіска Паўла Крутуля з вынікам 13 455 выбарчых бюлетэняў (Беласток 4902). З цікавінак адносна гэтага спіска ёсць факт, што папулярны беластоцкі радны Войцех Каранкевіч узяў у Беластоку 5297 галасоў з усіх 7641 аддадзеных на ягоную асобу. З гэтага спіска балатаваўся беларускі актывіст партыі «Разам» Севярын Пракапюк, які з чацвёртага месца атрымаў 1189 галасоў, а былы беластоцкі радны Мікалай Міpaновіч атрымаў усяго 909 галасоў. Апошняй партыяй, якая атрымала мандат, гэта радыкальна-нацыяналістычна-прарасейская Канфедэрацыя. З нашай акругі стартаваў варшаўскі парашутыст гэтай групоўкі Роберт Вінніцкі з паспяховым вынікам 22 639 галасоў, з чаго прагаласавала на яго 7788 жыхароў Беластока.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Нават настаўнікі між сабой размаўляюць па-свойму

**— Чаму Вы сталі настаўніцай беларускай мовы?**

— Я заўсёды любіла дзяцей і хацела іх навучаць. Памятаю, ужо ў чацвёртым класе настаўніца даручыла мне правесці дыктоўку для майго сябры. Справілася я сумленна. Важны таксама сямейны прыклад — мая цёця была настаўніцай.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Мой ідэал — спадарыня Вера Рушчук, сімпатычная, добразычлівая настаўніца. Памятаю, яна паехала з намі на ўступныя экзамены ў Варшаву. З Бельскага белліцэя тады паступала 17 асоб.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Вядома, без супрацы нічога бы не атрымалася толкам. Мы ўсе павінны аказваць сабе падтрымку, дапамагаць адзін аднаму. Мяне падтрымліваюць Анна Лаеўская, Людміла Грыгарук, Іаланта Грыгарук, Ніна Куптэль, Марыя Лемеш, Анна Кандрацюк, Ірына Герасімюк.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— АБ-БА, БГКТ, Бібліятэка ў Чыжах, Гмінны асяродак культуры ў Чыжах.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Я прымала ўдзел у праектах «З традыцыяй у будучае», «Раздзяліла нас граніцца, хай спалучыць традыцыя», «Велікодныя абрады Гміны Чыжы і Гміны Лятовічы».

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Конкурс «Роднае слова», які вяду ў сваёй школе. Пасля вельмі прыемна нам удзельнічаць у раённым і ў цэнтральным этапах.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Так, нашы бацькі ахвотна прымаюць удзел у мерапрыемствах, якія ладзяць настаўнікі беларускай мовы і школа.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— У нас у Чыжах амаль усе дзеці вывучаюць беларускую мову. Бацькі пішуць прашэнні. Усе разумеюць, што так трэба. І гэта для мне вялікі козыр.

**— Ці можаце зрабіць усё за 3 гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Хутчэй за ўсё так, змагу.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— У мяне сем лаўрэатаў і адзін фіналіст.

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Не заўсёды падручнікі дапасаваныя да сучаснасці. Часта разыходзяцца з пытаннямі і праблемамі, якімі жывуць нашы вучні. Таму карыстаю з іншых крыніц, шукаю матэрыялы ў інтэрнэце.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— «Кругагод», «Вяснянка».



**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Віктар Швед, Міхась Андрасюк.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— Чытаю якраз том Віктара Шведа «З Мора ў горад».

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Чытаю «Ніву», карыстаюся таксама матэрыяламі з «Зоркі», дзе друкуюцца рэпартажы і допісы з нашых школ, творчасць вучняў і цікавыя здымкі.

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Для мяне самыя цікавыя мерапрыемствы гэта «Купалле» ў Белавежы, «Ператоча», «Сяброўская бяседа».

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі пабеларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Размаўляю. У Чыжах няма з гэтым праблемы, нават настаўнікі між сабой гавораць па-свойму.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Не, такога не было. Я добра адчуваю сябе ў прафесіі настаўніка.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Палохае мяне прывід старасці, гэтага я найбольш баюся.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Магчыма яны ёсць, але сёння не магу назваць прозвішчаў.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Атрымала ўзнагароду дырэктара за дыдактычна-выхавацельскую працу.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Мае вучні, іх энтузіязм і прага спазнання ведаў.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— З такімі сардэчнымі пачуццямі ўспамінаю нашы школьныя *вігіліі*, якія арганізавала спадарыня Вера Флярчук, а мы з дырэкцыяй ёй дапамагалі. З сантыментам вяртаюся да часоў, калі дзейнічаў наш школьны тэатр «Усяго патроху» і мы ездзілі з вучнямі на Тэатральны агляд.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— У нас няма нацыянальнай сімволікі. Ёсць рэгіянальная ізба, дзе паказаны ручнікі, прылады працы, адзенне і макаткі. Прадметы прынеслі нашы вучні.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Я і мае сыны размаўляем па-свойму. Мае бацькі заўсёды мне паўтаралі, што нас ніхто сюды не прывёз, мы жывем тут ад вякоў, мы ў сябе. Я гэтыя словы паўтараю сваім сынам. Калі мой найстарэйшы сын, які жыве ў Вене, тэлефануе бабулі, заўсёды размаўляе з ёй па-свойму. А яна цешыцца і кажа: «Як ты прыгожа гаворыш!» Думаю, што ў нас ёсць будучыня, мы захаваем сваё.

**Валянціна АНДРАСЮК** нарадзілася ў Бельску-Падляшскім, але яе бацькі Вера і Васіль Юрчукі родам з падбельскіх Агароднік. Закончыла Варшаўскі ўніверсітэт са спецыяльнасцю беларуская і руская філалогія, а таксама бібліятэказнаўства ў Беластоку. У школе ў Чыжах працуе ўжо 23 гады (дадаткова 14 гадоў працавала ў школьнай бібліятэцы і настаўніцай пачатковага навучання). Раней працавала настаўніцай у Сабалеве, Барысаўцы, Новым Корніне і Грабаўцы. Маці трох сыноў. Жыве ў Гайнаўцы.



Валянціна Андрасюк з сынам

Апытальнік апрацавала
**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Гарбузы-гіганты

Васямнаццацігадовы Ірыней Бірыцкі жыве ў Гайнаўцы. Вучыцца ў трэцім класе Сельскагаспадарчага тэхнікума ў Бельску-Падляшскім. У школу даязджае з Гайнаўкі. Добра вучыцца. Не хоча жыць у інтэрнаце. Цягне яго ў вёску. Шмат часу праводзіць у дзядулі і бабулі Юрыя і Аляксандры Ляшчынскіх у Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Ён займаецца вырошчваннем вялікай агародніны — перш-наперш вялікіх гарбузоў, памідораў і сланечнікаў. Да гэтага мае вялікую схільнасць, захапленне. А калі так, то мае ў гэтай галіне не абы-якія поспехі. Цешыць гэта ягоных бацькоў і дзядоў. Агародніну вырошчвае на палетку ў Новым Ляўкове.



У мінулым годзе вырасціў аднаго габуза-велікана вагою больш за паўтоны (520 кілаграмаў) ды другога 150-кілаграмовага. Сёлета адзін гарбуз важыў 404 кг і другі — 285 кг. З агародчыка забраў іх 6 кастрычніка. Сёлета ва ўсмажлівае і сухое лета выпілі яны, як тыя смокі, шмат вады. Ад пякучага сонца іх схавалі ў фольгавы тунэль. Насенне віду гарбуз Atlantic Gigant раслінавод атрымлівае з Канады. Юнак пачаў вырошчваць таксама чырвоныя памідоры. Адзін яго памідор-пястун важыў 1,20 кг. Сёлета сланечнікі-гіганты мелі ажно 420 см вышыні.

Ірыней Бірыцкі з'яўляецца членам Польскага таварыства гадоўцаў вялікай агародніны. Ён лідзіруе ў нашай краіне ў раслінай прадукцыі.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Палепшыцца транспарт

Можам спадзявацца лепшага транспарту тавараў праз усходнюю мяжу. Польская дзяржаўная чыгунка (PKP PLK) падпісала кантракт на актывізацыю чыгуначнай лініі на ўчастку паміж дзяржаўнай мяжой і Хрызановам у Нараўчанскай гміне і абнаўленне пуцей на памежным пераходзе Семяноўка — Свіслач. Інвестыцыя на суму 138 млн. злотых заключаецца ў паляпшэнні перавозкі грузаў праз усходнюю мяжу.

У рамках праекта будзе заменена 20 км рэек. Гэта дазволіць пускаць даўжэйшыя (да 1050 м) і цяжкія (з мінімальным ціскам 245 кН / на вось) склады цягнікоў з хуткасцю да 60 км/г. У сваю чаргу сучасныя прыборы кіравання чыгуначным рухам і будаўніцтва паўаўтаматычнага блока лініі павінны забяспечыць большую магутнасць і бяспеку лініі. Чарці таксама будуць уключаць дыспетчарскі пункт на станцыі Семяноўка, які будзе адноўлены і абсталяваны сучаснай камп'ютарнай тэхнікай. На станцыі Заблотчына будзе пабудавана цалкам новая дыспетчарская. Будуць адрамантаваны 13 інжынерных збудаванняў (у тым ліку шэсць мастоў), на 12 аўтамабільных і дарожных пераездах будзе зменена паверхня, з'явяцца новыя перамыкачы.

Перагрузачны пункт у Семяноўцы таксама зменіцца. Замена 11 км „шырокіх" пуцей і 5 км стандартных дазволіць палепшыць абслугу грузавых цягнікоў. Праз станцыі Міклашэва і Заблотчына зможа прайсці больш складоў з таварамі з-за ўсходняй мяжы. Гэта стане магчымым дзякуючы рэканструкцыі абедзвюх станцый і бакавой пуці „Плянта".

Працы будуць праводзіцца ў формуле „праектуй і будуй". Выканаўцам абедзвюх задач з'яўляецца кансорцыум фірм супалак „Intop", „Torkol" і Паслугова-гандлёвага прадпрыемства-суполкі „Rajbud". Работы па актывізацыі чыгуначнай лініі № 59 запланаваны на 2019-2021 гады. Працы на памежным пераходзе будуць працягвацца на год даўжэй. **(лук)**

# Нашы драўляныя помнікі

Конкурс на найлепш захаваны помнік вясковага драўлянага дойлідства ў Падляшскім ваяводстве сёлета адзначае свой юбілей. Ужо ў пятнаццаты раз Музей сельскай гаспадаркі імя ксяндза Кшыштафа Клюка ў Цеханоўцы супольна з Маршалкоўскай управай Падляшскага ваяводства і пад патранажам Генеральнага захавальніка помнікаў ды маршалка Падляшскага ваяводства падымаюць ініцыятыву, каб заахвоціць жыхароў і самаўрады да дбайнасці аб драўляную архітэктуру нашага рэгіёна. Яе майстэрства і эстэтыка з'яўляюцца неадлучным элементам падляшскага краявіду, спадчынай нашых продкаў, багаццем пакаленняў. Абавязвае нас да беспераиынных дзеянняў. Арганізатары падкрэсліваюць, што гэта асабліва важнае ў свеце, дзе пераважаюць бетон, шкло і сталь.



Ужо 15 гадоў група аматараў драўлянай архітэктуры і краязнаўцаў вандруе па ўсім ваяводстве, каб дакументаваць і ацэньваць старыя драўляныя будынкі, якія з'яўляюцца забытым вобразам архітэктурнай спадчыны нашага краю. Мэта заключаецца ў тым, каб узнагародзіць людзей, якія клапоцяцца пра традыцыйныя будынкі.

— Драўляныя будынкі заслугоўваюць догляду. Дзякуючы нашым дзеянням узрастае ўсведамленне таго, што старое можа быць каштоўным. Конкурс і веды, якімі дзеляцца нашы эксперты, неадназоразова садзейнічалі захаванню драўляных аб'ектаў і захаванню характэрных асаблівасцей гістарычных будынкаў, — распавядае Анна Васьнеўска з Музея сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы, член журы конкурсу. Дадае, што ў папярэдніх выданнях арганізатары падарожнічалі па рэгіёне і шукалі архітэктурныя жамчужыны. Падказваюць самі ўласнікі і аніматары культуры з рэгіёна, дзе можна знайсці дагледжаныя шэдэўры. Сёння ўладальнікі ахвотна паведамляюць пра свае будынкі і з году ў год з'яўляецца ўсё больш ахвотных, каб паказаць свае скарбы, перададзеныя ім продкамі, перанесеныя і карпатліва складзеныя нанова, паводле старых праектаў, або набытыя ў старых гаспадароў.

У 15-м выпуску конкурсу былі ацэнены 42 будынкі, пададзеныя 37 уладальнікамі. Больш за ўсё заявак паступіла ад Гайнаўскага (10), Бельскага і Сямятыцкага паветаў — па 7 заявак, 3 заяўкі былі ад Сакольскага павета, па 2 ад Граеўскага і Высокамазавецкага і па 1 ад Аўгустоўскага, Беластоцкага, Ломжынскага, Сейненскага, Сувальскага і Замброўскага паветаў.

Сярод заяўленых да конкурсу найбольш было жылых дамоў — 31, дзве клуні, два шпіхеры і тры жывёлагадоўчыя будынкі. Апошнія аб'екты гэта дзве кузні, ветраны млын, школа і лесьнічоўка. На прэмію быў таксама вылучаны касцёл, які не разглядаўся да ацэнкі па рэгламенце.

Журы конкурсу, прааналізаваўшы ўсе матэрыялы, пададзеныя разам з заяўкамі і сабраныя падчас паездак-даследаванняў у глыбінку, вырашыла прысудзіць 9 узнагарод і 9 вылучэнняў. Вылучаныя будынкі і комплексы будынкаў могуць паўторна прымаць удзел у конкурсе.

Кузня ў **Асоліне**, якая належыць Антонію Пыкалу, была адзначана самай высокай узнагародай. За першае месца ён атрымаў дыплом, спецыяльную дошку, якая паведамляе пра выйгрыш і дае будынку знак помніка даўніны, і чэк на 6000 злотых. Другое месца атрымала стадола у **Райгродзе**, уласнік — Кшыштаф Мрозэўскі, і хата ў **Навінах**, 16, Нарваўскай гміны — уласнік Ян Ялінік ды хата на калёні **Альшанка**, 44, у гміне Сухаволя, уласнікі — Барбара і Здзіслаў Глэмбоцкія. Знак помніка з III месцам атрымала хата з **Сацоў**, 174, Нарваўскай гміны, уласнік — Канстанцін Марчук, хата ў **Козліках**, 8, Нарваўскай гміны, уласніца — Кацярына Мячкоўская, хата ў **Мутнай**, 53, Мельніцкай гміны — уласнікі Мечыслаў і Уладзімір Анішчукі, кузня ў **Шумове**, хата ў **Ліздэйках**, 6, гміна Тартак-Рутка, уласнік — Яраслаў Андрэй Галіцкі. Вылучаны будынкі: вятрак з **Мархелёўкі**, Янойская гміна, уласніца — Тэрэса Пясэцкая, хата ў **Бялках**, 44, Нарваўская гміна, уласнікі — Рэгіна і Барыс Прахоравы, хата ў **Божымах**, 18, гміна Пэрлеева, уласнік — Караль Мачульскі, хата ў **Хралавіцах**, 26, гміна Драгічны — уласніца Крыстына Вайткоўская, хата ў **Яцэвічах**, 12, Бельская гміна — уласнік Віктар Туроўскі, хата ў **Плютычах**, 71, Бельская гміна, уласнік — Славамір Грыгарук, лесьнічоўка ў **Свінароях**, 27, Нараўчанская гміна, уласніца — Кацярына Ляшчынская, хата ў **Трасцянцы**, 58, Нарваўская гміна, уласнік — Андрэй Ціханюк, хата ў **Семяноўцы**, вул. Ліпавая 90 А, уласніца — Анна Засім. Гарой Нарваўская гміна, дзе найбольш заявак падрыхтавала і намовіла да ўдзелу ўласнікаў дагледжаных драўляных скарбаў солтыс Сацоў Тамара Ляшчынская.

Будынак у Навінах, 16, будаваны быў у 1946 годзе бацькамі цяперашняга ўласніка Яна Ялінніка (брата вядомай настаўніцы Ніны Абрамюк). Дом не паддаваўся большым рамонтам, толькі ў 1974 годзе былі дабудаваны сені. Сцены дома пастаўлены ў канструкцыі на зруб. Вокны аздоблены надаконнікамі і плыцінавымі, памаляванымі ў кантрасны колер, аканіцамі. Дэталёвыя аздобы ўмацаваны таксама на рагах дома. Нутро будынка падзелена на шэсць памяшканняў, у тым ліку камору, кухню і сені. Кафлёвая кухонная печ мае каптур, з боку дабудавана ляжайка З кафляў таксама выканана агравающая печ — сцяноўка. У інтэр'еры захавана мэбля, якой пару дзясяткаў гадоў, сярод якой вылучаюцца стол з крэсламі, ложак і кветнікі-этажэркі. У інтэр'еры хаты вельмі важную ролю выконваюць тканіны — макаткі, пакрывалы на ложках і тканыя дываны. Згода з мясцовай традыцыяй у рагу «вялікай хаты» вісіць ікона, аздобленая гафтаваным ручніком. У гэтым пакоі сцены аздоблены расліннымі і геаметрычнымі матывамі, зробленыя валкамі. Асаблівае ўражанне выклікае камора, у якой на драўляных дручках вісяць кажухі ды льняное палатно. Тканіны захоўваюцца таксама ў скрыні і трох куфрах. Дом цяпер выконвае ролю летняй дачы.

Анна Засім (з Каліноўскіх) з Семяноўкі: — Мы запрапанавалі да конкурсу драўляную хату з 1946 года, па вуліцы Ліпавай, 90, у Семяноўцы. Жыло там тры пакаленні — дзяды, свёкры (бацькі майго мужа Толіка), мы ды нашы дзеці. Ставілі хату Юзаф і Аляксандр Засімы. Цяпер усе параз'язджаліся і гэту хату летам трымаю для агратурыстычных мэт. Засталася там старая мэбля, як калісь была, і маслабойкі, і тары... Да мяне турысты па тры разы ў год вяртаюцца. Кажуць, што там выцішаюцца, што для іх гэта цудоўнае месца. Жывем мы побач, сабе хату паставілі ў 1986 годзе. Я тут з мужам і ўнучкаю, Маяй Засім. Гэта ўсё будзе для ўнучкі. Унучка вучыцца ў Беластоку, жыве ў Рыбалах. Мой сын паставіў хату ў Рыбалах, так яму спадабаліся, а на працу даязджае ў Нараўку, у «Пронар». А да свае старое хаты заўжды вяртаемся.

— Мы ў сваю хату толькі даязджаем, — кажа Януш Марчук, сын Канстанціна, бацька Антона (Сацы, 174). — Ікона засталася пільнаваць дом, нашу бацькоўшчыну, дзядоўшчыну. Хатку ставілі бацькі Кастуся Ян і Вольга.

— Усё засталося, як было, — кажа Канстанцін. — Аканіцы. Мэбля. Дыванкі. Падстаўкі для кветак, такія файныя. Прыязджаем да хаты, у госці.

— Наш дом мае сваю гісторыю, — кажа Рэгіна Прахорава. — Купілі яго спачатку суседзі з Бялок. Прадавалі яго, бо дачка будавалася ў Заблудаве. Хатка была ў плачэўным стане. Жылі ў ёй дрывасекі. Стаяла кафляная печ. Трэба было ўсё аднавіць, памаляваць. Пакінулі мы ўсе дзверы, уваходныя ачысцілі, забяспечылі. Памянялі толькі дах, бо западаўся. З бэлек стайні паставілі альтану. З дому засталіся карнізы, дык дакупілі мы падобныя. Засталіся былі шафкі, бочкі, ночвы для збожжа, калаўротак... Муж Барыс гэта ўсё пачысціў, аднавіў. Домам апякуемся ўжо 20 гадоў. І да яго дазбіралі розныя колішнія рэчы. Нічога не змарнавалі, не пераборшчылі з рэканструкцыяй. Да хаты даязджаем, больш яна як дача на лета.

— А наша хатка ў Козліках, — кажа бацька Кацярыны Мячкоўскай, Васіль Іванюк, папраўдзе сапраўдны гаспадар хаты. — Дом быў прывезены з вёскі Барысаўка, у вёску Лянева. І ў 1965 годзе трапіў ён да нас, у Козлікі, да маіх бацькоў Яна і Вольгі. Мне было тады 15 гадоў. Я апекаваўся гэтым домам, перапісаў на сваю дачку, англістку. Крыху змянілі — там, дзе былі сені, мы зрабілі прыхожую. А камора засталася. Хаты мы не папсавалі. Захаваліся вокны і аканіцы з тых гадоў, калі хата прыехала ў Козлікі. Ведаю, што раней хата была крыта гонтай. Гаспадар з Лянева сам рабіў дахоўкай. Дык мы пакрылі хату дахоўкай. Сорак гадоў дом быў пад дахоўкай, цяпер мы пакрылі яго бляхай. Драўніна надалей добрая, вядома, з Белавежскай пушчы. І я задаволена, што ўсё захавалася, наша старанне ўзнагароджана, а хатка трымае ганаровы знак помніка гістарычнай даўніны...

Конкурс на найлепшы захаваны помнік сельскага драўлянага будаўніцтва ў Падляшскім ваяводстве будзе працягнуты ў бліжэйшыя гады. Арганізатары заклікаюць адпраўляць заяўкі сваіх будынкаў на адрас сельскагаспадарчага музея ў Цеханоўцы.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# Тут спатыкаюцца Захад з Усходам

Аляксандр ВЯРБІЦКІ

**Пад такім лозунгам 25 і 26 верасня адбыўся ў Беластоку шосты Усходні эканамічны кангрэс. Адзін з панэляў кангрэса быў прысвечаны рынку працы.**

**Павел ВАЙЦЯХОЎСКІ**, галоўны эканаміст ЗУС (Установы сацыяльнага страхавання), былы міністр фінансаў РП, былы віцэ-міністр замежных спраў: — З рынкам працы быццам маем добра, не будзе дрэнна, але так сабе. У чым справа? Польская гаспадарка і сацыяльнае забеспячэнне залежаць ад працы. Улічваючы дэмаграфічныя змены, павінен быць добры рынак працы: каля 62% дзяржаўнага бюджэту сілкуецца складчынамі з сацыяльнага страхавання, з працы. Такім чынам ад кандыцыі рынку працы залежыць дабро польскай гаспадаркі. Маем адну праблему: гаворыцца, тэарэтычна, што маем нізкі ўзровень беспрацоўя, бадай мы на другім-трэцім месцы ў ЕС, але цягнемся ў хвасце ЕС, калі гаварыць пра паказчык занятасці, маем прафесійную пасіўнасць, якая кранае галоўным чынам маладых людзей, ім яшчэ не вельмі хочацца працаваць; ды старэйшыя асобы — 50+. Гэта такая праблема, якую эканамісты называюць структурным беспрацоўем ці неахвотай працаваць. Маем працадаўцаў, якія наракаюць на недахоп працаўнікоў, гэты недахоп будзе расці ў выніку старэння грамадства. Чарговая праблема, гэта структура нашай гаспадаркі: зараз многа людзей працуе ў сельскай гаспадарцы, прыкладам на Падляшшы, каля 10% — гэта не вельмі пасляховыя працаўнікі. Гэтая структура будзе змяняцца ў выніку механізацыі ў напрамку аднаго ці нават паловы адсотка цягам некалькіх дзясяткаў гадоў. У выніку наступіць прыток унутранай рабочай сілы ў прамысловасць. Але магчыма, што ў выніку глабалізацыі тая праца не будзе так прадуктыўная і крыху ўстрагнем у прагрэсе індустрыялізацыі, калі вытворчасць сканцэнтруецца, напрыклад, у Кітаі. Не надта можам разлічваць на дэмаграфію, бо гэта справа стылю жыцця, а не сацыяльнай палітыкі. Рост адукацыі гэта наш шанс і Польшча будзе прагрэсаваць, запаўняючы прабел працы ростам прадуктыўнасці. Чарговая справа гэта міграцыйная палітыка, калі яна будзе скіравана на пасяленчасць. Такая міграцыя вядзе да росту прадуктыўнасці мігрантаў, якія захочуць пасяліцца павышаючы свае кваліфікацыі. Чарговая справа, гэта такія рэформы, каб у іх выніку хацелася працаваць, каб усе параметры сацыяльнай дапамогі, складчынныя і падатковыя рэгулятары заахвочвалі людзей да легальнага працаўладкавання. Бо крыніцай дабрабыту з'яўляецца праца.

**Станіслаў ДЭРЭГАЙЛА**, віцэ-маршалак Падляшскага ваяводства: — Такая праблема, адыходу людзей з сельскай гаспадаркі, была б актуальная, але можа пятнаццаць гадоў таму, калі існавала прыхаванае беспрацоўе, дзе малыя гаспадаркі чахлі. У выніку эвалюцыі цягам гэтых пятнаццаці гадоў сама сельская гаспадарка патрабуе пастаянных рабочых рук, універсальна адукаваных. Сямейныя гаспадаркі, дзеля функцыянавання, патрабуюць наёмных работнікаў. Складаны гэта рынак працы, бо тут маем ментальную спадчыну: „Не буду працаваць у суседа, бо гэта зніжае мой сацыяльны статус". У выніку ўвядзення сацыяльных рэнт меншыя гаспадаркі былі пераняты большымі, якія зараз патрабуюць рабочай сілы. Найлепш, каб гэта быў высокаадукаваны работнік, які зімою, апрача консервацыі машын, пашыраў бы свае кваліфікацыі на курсах; такому работніку сёння няма цаны.

**Раман КАЛЕТА**, старшыня праўлення фірмы «Malow», якая займаецца вытворчасцю металічнай мэблі: — Займаем людзей усіх галін, 650 асоб. Гэта ўсё кошты: працаўніка трэба абследаваць з сродкі фірмы, трэба яго апрануць, абучыць, а ён пасля нейкага часу адыходзіць. Бо такі сёння рынак працы — можа яму здавацца, што ў іншым месцы будзе яму выгадней. На працу ў бюро ахвотных многа — калі даем аб'яву, то заяўляецца каля трыццаці асоб, бо вучэльні адукоўць у такіх напрамках, як напрыклад, еўрапейскае заканадаўства — то куды такія людзі маюць уладкоўвацца? Не хапае нам працаўнікоў на рабочых месцах, там увесь час недахоп парадку 15%. Каб гэтаму зарадзіць, мусім уводзіць аўтаматызацыю і робатызацыю.

**Багдан ЛУКАСІК**, загадчык групы «Modern Expo Group», якая займаецца вытворчасцю абсталявання для вялікіх гандлёвых сетак: — Наша фірма мае два прадпрыемствы на Украіне і адно ў Беларусі, закладаем адно і ў Польшчы. У Польшчы з прадукцыйнымі працаўнікамі пакуль не маем праблем, але і тут паўстае вытворчае прадпрыемства. Працаўнікі адкрытыя на новыя прапановы, магчыма, гэта прымета новага пакалення. Зараз маладыя людзі мабільныя, бо гэтае пакаленне адукаванае і ахвотна далей вучыцца. Найбольш складаная праблема кадраў з тэхнічнай адукацыяй. Вучэльні ні ў Польшчы, ні на Усходзе не рыхтуюць такіх кадраў і мы мусім шмат інвеставаць, каб прывучыць такога працаўніка да працы на нашых машынах. Людзі мігрыруюць у большыя цэнтры, бо там большыя зарплаты і большыя магчымасці. Праблемай таксама з'яўляецца набор такіх асоб, у якіх вопыт экспартнай продажы, бо нашы тавары распаўсюджваем па 27 краінах ЕС, асоб, якія ведаюць некалькі моў і ўтрыманне такіх людзей вельмі складанае.

**Эва РОЛЬНІК-САДОЎСКА** з Беластоцкага політэхнічнага інстытута: — Рынкі працы ў розных рэгіёнах розныя. Маладыя людзі, якія здабываюць адукацыю ў рэгіёне, вельмі часта мігрыруюць у іншыя, не заўсёды ў межах краіны. Маладым людзям вельмі істотныя эканамічныя ўмовы, таму выбіраюць такія месцы, якія эканамічна найбольш прыцягальныя. І рэгіёны ўсходняй Польшчы вельмі часта не выбіраюцца як мэтавыя для пасялення і заснавання сям'і. Складана рашыць, як такія асобы затрымаць. Супрацоўніцтва з мясцовым бізнесам пад завяршэнне навучання часам дазваляе затрымаць працаўнікоў. Такое супрацоўніцтва бізнесу і навукі вельмі істотнае. Каб уключыць жанчын у працу таксама патрэбная роля прадпрымальнікаў ці мясцовых улад. Шматлікія прадпрымальнікі па ўласнай ініцыятыве ладзяць апеку над дзяцьмі ў месцы працы. Гэта адзін са спосабаў, каб зматываваць або ўспамагчы тых бацькоў, каб не бралі выхаваўчых водпускаў. Адносна працаўнікоў 50+: важна заняцца імі не тады, калі пакінуць рынак працы, але раней, у фірме, ладзіць ім сістэму курсаў і перакваліфікавання.

**Раман КАЛЕТА**: — Да 2008 года ў вытворчасці не працавала ў нас ніводная жанчына, а з 2008 года сталі мы іх прымаць на прадукцыю і зараз маем там каля 20% жанчын. У Комплексе тэхнічных школ у Сувалках маем два патранацкія класы. У Вышэйшай тэхнічнай школе 18 студэнтаў маюць у нас практычныя заняткі. У нашай фірме пад трыста асоб мае вышэйшую або тэхнічную адукацыю. Я з'яўляюся членам рады прадпрымальнікаў пры Беластоцкай палітэхніцы, якой студэнты стажыруюць у нас. Хочам прыцягваць тых абітурыентаў. Не ўсе ў нас застануцца, але прывыкнуць, пабачаць, якія тут перспектывы развіцця і частка іх тут застанецца. Напрыклад, 95% нашых стажораў застаецца ў нашай фірме.

**Павел ВАЙЦЯХОЎСКІ**: — Каня можна прывесці да вадапою, але нельга яго прымусіць напіцца. „Файнаншл Таймс" падаў у 2017 годзе, што Польшча з'яўляецца раем для заработкавых мігрантаў — было іх тады ў нас 1,2 мільёна; на другім месцы ЗША — палова таго што ў Польшчы. На трэцім месцы, утрая менш чым у Польшчы — Германія. І маем парадокс: у нас маем заработкавых мігрантаў, а нашы едуць у Вялікабрытанію і там зарабляюць. Іх нельга прымусіць тут працаваць, бо там лепш плацяць, там стабільнейшыя ўмовы працы, там аплачваецца працаваць.

**Багдан ЛУКАСІК**: — Польшча названа заработкавым раем, маем тут нават каля двух мільёнаў чужаземцаў, але трэба помніць, што ў будучым годзе адкрываецца рынак працы ў Германіі і тыя асобы, калі не маюць магчымасці ўтрымаць тут сем'яў, найверагодней выедуць з Польшчы і я, праўду

чытайце 10



Фота Аляксандра Вярбіцкага

**У часе Усходняга гаспадарчага кангрэса былі вылучаны асобы, якія выдатна праславілі Падляшша. У іх ліку і арганізатары нашых фестываляў царкоўнай музыкі Мікола Бушко і Ірэна Парфянюк.**

## Вёскі Нараўшчыны выміраюць

З кожным годам пусцеюць вёскі на г.зв. Усходняй сцяне Беласточчыны. Найхутчэй гэты працэс адбываецца ў Гайнаўскім, Бельскім і Сямятыцкім паветах. У іх пражывае шмат састарэлых асоб. Гэта пераважна пенсіянеры ды інваліды. Тут нараджаецца мала дзяцей. Моладзь выехала шукаць сабе працу перш-наперш у бліжэйшыя замежныя краіны ў заходняй і паўночнай частках Еўропы. Маладыя мужчыны і жанчыны там пачалі працаваць і застаюцца на пастаяннае жыхарства. Яны пакінулі родныя вёскі. Зараз у Падляшскім ваяводстве яны не бачаць перспектыў дзеля лепшага жыцця.

У замежных краінах працавітыя беларусы з Беласточчыны на працягу 4-6 гадоў пабыўкі купілі сабе кватэры, а некаторыя пабудавалі сабе ўласныя дамы. Я прытрымліваюся фактаў. Гэтак зрабілі замужняя дачка і двух сыноў мае роднай сястры з Ляўкова Нараўчанскай гміны. Зараз яны пражываюць у Швецыі і Фінляндыі. Малодшы сястрын сын жыве ў Швецыі. Ці яны вернуцца ў пакінутую вялікую бацькоўскую хату (раней жылі ў ёй дзве сям'і) ды гаспадарку (каля хаты на г.зв. каленіі Ляўкова маюць поле, сенажаць і шмат вялікага лесу)? Летам мінулага года старэйшы сын прыязджаў з Фінляндыі ў свой дом ды яго нанава перакрыў, а сёлета памаляваў сцены ў сярэдзіне хаты і паставіў новыя вокны. Ён дбае пра свой родны куток. Наведвае яго на Раждаство Хрыстова і Вялікдзень. Цяпер за межамі нашай краіны ў Бельгіі, Фінляндыі і Швецыі працуе пяць асоб з Ляўкова: чатырох мужчын і адна жанчына.

Мне вядома як апусцела вёска Альхоўка (яна ў пяці кіламетрах ад Нараўкі). Зараз там многа пустых хат. Адыходзяць ад нас перш-наперш самыя пажылыя жыхары. Яны тут пераважаюць сярод іншых узроставых груп насельніцтва па колькасці. На працягу аднаго-двух гадоў найбольш пахаванняў было ў вёсцы Плянта. Смерць збірала сваё жніво, між іншым, у Новым Ляўкове, Старым Ляўкове, Ахрымах, Падляўкове, Капітаншчыне, Нараўцы, Заблотчыне, Міклашэве і Семяноўцы. **(яц)**

## Патрэбны тры міні-пачакальні

Пры ваяводскай дарозе № 687 у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета зараз патрэбны на аўтобусных прыпынках ПКС тры драўляныя міні-пачакальні з лавачкай (навесы): па адной у вёсцы Новае Ляўкова, на каленіі гэтага сяла і на прыпынку Лазовае. Усе гэтыя прыпынкі на тэрыторыі новаляўкоўскага салэцтва.

Зараз на двары позняя восень і ўжо неўзабаве прыйдзе да нас зіма. На „свой" аўтобус пасажырам прыйдзецца чакаць, як кажуць, „пад хмаркай" або „голым небам". Дзе тады ім схавацца ад халоднага ветру, такога ж дажджу або снежнай мяцеліцы? Тут прыдарожныя г.зв. навесы патрэбны.

Можа работнікам Гмiннай управы ў Нараўцы ўдасца нешта зрабіць у гэтай справе яшчэ да канца гэтага года. Тут жа вялікіх „трохсценак" не трэба ставіць. **(яц)**

## Незвычайная пасылка

Цягнікам JT 42 перавозчыка DB Cargo быў пададзены транспарт кантэйнераў з аўтамабілямі на перагрузачны пункт Хрызанаў. Быў гэта другі састаў таго ж аператара. Дзень пазней праз Гайнаўку на Хрызанаў падаўся чарговы транспарт. Можна спадзявацца, што неўзабаве такія цягнікі будуць пастаянна ўведзены ў маршрут чыгуначнага транспарту на Хрызанаў. Варта адзначыць, што аўтамабілі вядомага нямецкага прадпрымальніка прызначаны на кітайскі рынак.

**(ус)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# Хацелі ведаць усё!




Гэты клас запамятаўся як ніхто іншы. І калі жменька дзетак гучна прывітала мяне словамі «Добры дзень», я яшчэ не прыкмеціла галоўнага. А галоўная тут спагада і сяброўства.

Клас IV „б» — інтэграцыйны. Частка дзяцей з абмежаванымі здольнасцямі. Але яны не замінаюць ні сябрам, ні настаўнікам. Наадварот, яны матывуюць дзяцей да прыгожых, людскіх жэстаў.

— Гэтыя дзеці апякуюцца хворымі сябрамі, — кажа настаўніца Валянціна Бабулевіч. — Яны сочаць за імі на перапынках, дапамагаюць справіцца з задачамі. Словам — перажываюць за іх. Калі нехта з сяброў-інвалідаў ідзе на калідор, яго следам ступае Габрысь Герасімюк. Ён баіцца, што яго сябру не зразумеюць, стануць з яго смяяцца, абражаць. Дзеці ж не ведаюць, што ён іншы. Таму заўсёды трэба быць чуткім, напагатове!

У адрозненні ад іншых класаў, тут адразу ўмелі і хацелі слухаць. А пра тое, што слухалі са зразуменнем, сведчылі пытанні, якімі дзеткі сыпалі як з мяшка. Пыталі пра тое, колькі часу трэба адвесці на адзін нумар газеты, пыталі пра розніцу між тэкстам напісаным уручную на картцы і тэкстам на камп'ютары, цікавілі іх думкі журналіста, калі ён едзе ў школу сустрэцца з вучнямі. Такіх пытанняў не ставяць заспаныя, пазбаўленыя ўвагі дзеці. Нашы сябры хацелі ведаць усё! І яшчэ самі шмат мне расказалі. Дзяўчынкі і хлапчукі пасля школы дапамагаюць сваім бацькам. Наводзяць парадак у хаце і на панадворку, дапамагаюць гатаваць стравы, выводзяць сабак на прагулку, даглядаюць насаджванне кветак у агародзе. Дзяўчаткі, вядома, любяць сваім матулям памаляваць у розныя ўзоры ногці ці ўкладаць ім модны фрыз на галаве. У школе ім найлепш са сваёй выхавацелькай Валянцінай Бабулевіч. Настаўніца



ведае як рассудзіць іх пытанні, як аб'яднаць клас, як цікава павесці ўрок. І верагодна таму ўсе тут любяць беларускую мову. Калі мы чыталі легенду пра птушыны «рай», дзеткі ажно замерлі ад захаплення. У іх вачах блішчэлі іскрынкі-цікавінкі.

— А мы з дзедкам робім для птушак кармушкі, — адазваўся Шымак Сідарук, — каб падкарміць іх, калі мароз і завеі. Я размалёўваю іх хаткі ў яркія колеры, каб усім было цяплей.

Сапраўды, калі глядзіш на спагаду і прыгожыя жэсты, на яркія колеры восені ці на вясёлыя кармушкі, — усім на сэрцы цяплей. І ўсё пачынаецца са спагады, з увагі да сяброў і іх праблем.

**Зорка**

Габрыся Вільдовіч,
ПШ у Гарадку.

## Алесь — чаго ты прыйшоў!

Алесь прыбег да бабкі,
Паказаць свае новы заняткі.
Пачаў цэліць у вароты,
А нарабіў бабулі псоты.

Бабуля нічога з тым не зрабіла,
Талеркі пасля абеду памыла,
Яна ўнука вельмі кахала,
І пра яго фокусы не распавядала.

Настала цішыня...
Пасыпалася шкло з акна.
Алесь падарваўся з ложка,
Аж паламалася драўляная ножка.

Бабуля тым часам зварыла мелісу,
Уліла ў вялікую місу,
Выпіла напой на спакой
І забылася пра Алесевы падбой.

Але наш хлопчык — рэдкі выпадак,
Хацеў ён зрабіць на падворку парадак.
Коціка да гусей усадзіў
Ды злоснага сабаку кветкамі накрыў.

Цяпер бабуля сварыцца на яго:
«Алесь, чаго ты сюды прыйшоў!»

## УВАГА КОНКУРС! № 43-19

**Укінь камень у ваду. Які ён будзе?**
**М....**

Разгадайце загадку-пытанне з жартам. Адказ можа быць розны, аднак дасціпны і на тэму. Рашэнні дашліце ў „Зорку" да 10 лістапада 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 39: замок. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Лясун

У старым лесе ўсё здаецца іншым чым бачым і разумеем. Да міфічнага думання схіляе нас пошум лістоты і галінак, раскошна раскалыханых ветрыкам. Часта ў абрысах маладых дрэў і кустоў бачым постаці, які напамінаюць казачных персанажаў.

Лясун — постаць са старадаўніх павер'яў беларусаў.

Ён — гаспадар лесу і звяроў. Жыве ў лясных нетрах і толькі зрэдку выходзіць на лясную паляну. Людзі ўяўлялі яго як старога чалавека з белым тварам, з вялікімі вачыма, у звярынай шкуры. Лясун ведаў характары людзей. Для добрых людзей ён паказваў грыбныя і ягадныя месцы, наганяў паляўнічым у сетку звярыну і птушак, дапамагаў бортнікам устанавіць месцы для пчаліных калод. А тых, каго не любіў, мог доўга вадзіць кругалём па лясных сцежках ды астаўляў блудзіць аж да рання.

Каб вярнуць таго, хто заблукаў у лесе, людзі задобрывалі лесуна. Яны клалі на скрыжаванні лясных сцежак хлеб з соллю і сала. Такая яда, думалі нашы продкі, даспадобы гаспадару лесу.

*(гак)*

(БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ЛЕГЕНДА)

## Дзе цень сягае

Некалі пры дарозе з Войшкаў у Зайчыкі стаяла старая жаралістая ліпа. Хоць яе сарцавіна даўно абярнулася ў парахню, а вершаліна цалкам струхлела і абвалілася, але ніжнія голькі кожную вясну кучаравіліся густою лістотай...

Біліся тут, кажуць, якіясьці войскі. Біліся не на жыццё, а на смерць. І бачыць адзін камандзір, што яго войска пахіснулася і пабегла пад націскам ворага. Схапіў ён тады акаваны жалезам сундук з грашыма на заплату сваім жаўнерам і закапаў яго паблізу гэтага дрэва. Частка салдат таго камандзіра загінула ў бітве і косці іх ляжаць побач з касцямі іхніх непрыяцеляў на тых старых могілках, што каля ўрочышча Прыстань пры самой рацэ Нарве. Другая ж частка разам са сваім камандзірам трапіла ў палон і пайшла ў няволю.

Мінулі гады, хадзілі і ездзілі сюдой людзі, і расла сабе ўвысь і ўшыр ліпа на пагорку. Ніхто так і не здагадаўся б пра закапаны тут скарб, але ж той камандзір, дажыўшы да глыбокай старасці ў чужыне, перад смерцю напісаў тастамент. Згадаў у ім пра сундук золата і дадаў, што закапаў яго тут у такім месцы, куды дасягае цень ліпы.

Спадкаемцы мігам прымчаліся шукаць скарб. Была якраз раніца і цень разгалістага дрэва сягаў на паўвярсты ці болей. Кінуліся яны капаць. Капаюць ямы ў рост чалавека, а там нічога няма. Тым часам сонейка паднялося і цень стаў іншае месца паказваць. Давай яны там ямы капаць. Не паспелі і да пояса выкапаць, як цень далей перабег. Капалі яны так, капалі раніцай, у поўдзень і пад вечар, а цень вёў іх усё ў новае месца. Капалі яны тыдзень, капалі месяц, навакольле перарылі, і аніяк не маглі на скарб натрапіць. І толькі тады, як са стомы не далі рады ўжо ног валачыць, зразумелі, што скарбу не знойдуць, бо ў тастаменце не было сказана, у якую пару года і дня той камандзір сундук з золатам закапаў.

Цяпер цень сваім абсягам ужо не спакушае людзей шукаць той скарб. А ад старасці ліпа зусім засохла і звалілася. Нават не вядома, дзе яна і расла.

*(Легенду для нашай старонкі «Зорка», як пазначана ў кнізе «Легенды і паданні» запісаў ніўскі журналіст Мікола Гайдук у 1980 годзе. Легенду друкуем у скарочаным варыянце.)*

Малюнак аўтарства Лізаветы Чырвонцавай.

*Максім Багдановіч, 1910*

## Чуеш гул?

Чуеш гул? — Гэта сумны, маркотны лясун
Пачынае няголасна граць:
Пад рукамі яго, навяваючы сум,
Быццам тысячы, крэпка нацягнутых, струн,
Тонкаствольныя сосны звіняць.

Ці казаць, ад чаго пацямнела рака,
Зашамрэлі мацней каласы
І аб чым шэпча ім галасок вецярка,
Што зіяе-дрыжыць на лісцёх лазняка:
Кроплі слёз ці халоднай расы?

## Польска-беларуская крыжаванка № 43-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 39-2019:**

Глуш, сказ, мат, Ас, сакрэт, Ян, мода, сэрца, тон, львіца, які, на, яна, зараснік. Граб, молат, сад, вяз, макавіна, факт, цар, трус, эсэ, Ас, кут, Яцак, змена, ікс.

Узнагароды, значкі з беларускай сімволікай, выйгралі **Дам'ян Карнілюк** з Бельска-Падляшскага і **Мая Ляўчук** з Беластока. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Lęk | | | | Jesień / Dziupla | | | | | | |
| | | | Uszka | | Co? | Krzak | | Swatka | | Niebo / Bo |
| Granica / Uznanie | | Sprawa | | | | | | Kamień | | |
| | | | Ptak / Pas | | | | | | | Starzec |
| | Paseczek / Ar | | | | | | | | | |
| | | | Balon | | Sos pomidorowy | | | | | |
| | | | | 7. | | Mi | Ił | | | |
| | Arek / Ala | | Seminarium | | | | | | | |
| | | | Emil | | | | | | | |

Частка 2

# Генетычны алфавіт



Разведчык адкінуўся на спінку крэсла і пастараўся падумаць пра штосьць вясёлае. І зарагатаў. Успомніў анекдот, які пачуў ад сваіх калег зусім нядаўна, як выконваў чарговае, як заўсёды, сакрэтнае заданне на нейкім сходзе кіраўнікоў краін Блізкага Усходу. Анекдот яму так спадабаўся, што ён яшчэ раз прагаварыў яго ўслых:

— Пасля працоўнага саміту на Блізкім Усходзе некаторыя султаны — аматары абмену жонкамі — на ноч памяняліся гарэмамі.

І зноў зарагатаў:

— Вось гэта ночка была! — выгукнуў ён з захапленнем і зайздрасцю. — Не тое, што тут: кіснеш, як пратэрмінаванае піва, і на кожнае спазненне з работы дахаты прыдумляеш для сваёй каханай настолькі нерэальныя версіі, што іх хітрасплятеннем нават у Крамлі пазайздросцілі б. А па-іншаму нельга. У нешта прымітыўнае або праўдзівае яна не паверыць. Асабліва ў праўдзівае. Магла б служыць у маім аддзеле, каб не была маёй жонкай. Такія гадзюкі ўсім патрэбныя. І нам, і саветам. Але саветы да яе не дабяруцца. Бо нас з імі раздзяляе акіян і дэмакратыя.

Спецслужбовец на хвілінку сцішыўся, задаволены сваімі высновамі пра жонку і саветаў, а пасля схіліўся над палітычнай мапай свету, раскінутай на шырокім светладубовым працоўным стале невялікай гладкай прасцінай. Спярша яго позірк блукаў, як у галоднага ваўка, па ўсёй тэрыторыі, паменшанай за рэальную ў некалькі сотняў разоў. А пасля, як ястраб перад атакай, сканцэнтраваўся на адной кропцы.

— Я дакажу ім, гэтым палітычным пустамелям і агідным брахунам, што толькі я магу змяніць свет да лепшага, — прашаптаў ён. — І гэта не амбіцыі. Гэта ў гнілых палітыканаў іх амбіцыі такія ж гнілыя, як і яны самі. Яны заўсёды пачынаюць нешта рабіць запозна і заканчваюць зарана. Ад іх толку як ад кітайскіх палачак у цукарніцы. А я выконваю свой абавязак перад народам ЗША. Палітыкі ўсе сталі прадажнымі і перапрадажнымі сукамі. Яны робяць усё, каб зганьбіць Амерыку. Яны не вераць, што Савецкі Саюз развaліцца, як стары воз на дзіравай дарозе. І не фінансуюць гэтай ідэі. Ну што ж! Я гэта зраблю сам. І выцягну ў іх на гэта грошы нібыта пад іншы праект. Я не паплыву па плыні, як іншыя, а зраблю гэта насуперак усім абставінам. Як сцвярджае старая індзейская прымаўка, па цячэнні можа плыць нават мёртвая рыба. А я жывы і дакажу гэта. І гэтыя дэбілы з палітычных колаў мне не перашкодзяць.

Спецслужбовец адвёў позірк ад мапы і глянуў на ўражвальных памераў глобус, які стаяў у кутку ля шырокай скуранай канапы, любімага месца адпачынку шэфа.

— Большая частка планеты пакрыта вадой, а рэшта Зямлі пакрыта дэбіламі, — зрабіў ён яшчэ адну неўміручую выснову, якую пасля доўгія гады людзі розных народаў будуць успрымаць як дапатопную мудрасць.

Пасля зноў утапырыўся ў мапу яшчэ больш уважліва і прастагнаў, як кабан параненны ў азадак:

— А я ж ані разу не быў у Мінску сам, — у развагах пра свой план расчаравана выгукнуў ён, паглядаючы, як „Джэк Дэніэлс”, што прызямліўся ў шклянцы, як вядзьмарка ў ступе, прама на мапу недалёка ад Беларусі, пераламляе сонечныя промні. — Якая недапушчальная для разведчыка памылка! Я павінен быў прадбачыць, што мне прыйдзецца ўкараняць свайго агента ў ваколіцах Мінска. Павінен! Разведчык павінен ведаць усё. Вось жа нават пра гэтую спёку, што і сіноптыкі не прадказалі, я ведаю ужо некалькі гадоў таму. А пра Мінск упусціў, як дурань грошы. А так неабходна самому ўсё прамацаць, самому ўсё пpaглeдзeць... А то даручыш якому паўдурку, а ён запора такі геніяльны план! Эх! Праклятая работа! Праклятая работа!! Праклятая работа!!!

Бывалага разведчыка вельмі занепакоіла тое, што ён не да канца выкарыстаў свой патэнцыял у беларускім кірунку. А гэта такі пракол нават для самага дробнага шпіёна. А ён ажно кіраўнік звышсакрэтнага аддзела звышсакрэтнай службы, у падпарадкаванні якога тых шпіёнаў як снегу зімой. Бо, каб патрапіць у Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку і там растварыцца незаўважаным у тамашнім грамадстве, у яго было ўсё. Тамтэйшую мову ён збольшага разумеў, бо, хоць дзед настойваў на правільным пшэканні, бабуліны песні і казкі на ноч таксама не прапалі дарэмна. Таму маленькі Джэк навучыўся і дзекаць, і джэкаць, і пшэкаць аднолькава пагана. І тым дагадзіў і дзеду, і бабцы. А рускую мову вывучыў яшчэ ў разведшколе.

Ён падышоў да акна, адкрыў жалюзі цалкам і ўзняў шклянку да роўня вачэй так, каб яна размясцілася паміж ім і сонцам.

— Ну вось, і лёд растаў, — усміхнуўся разведчык і самазадаволена пакачаў галавой. — І гэта ж я прадбачваў таксама. А тут... Эх, Мінск, Мінск...

**2. Цёмная маскоўская ноч**

А ў гэты час у супрацьлеглым кутку планеты, на другім кантыненце, у горадзе Маскве (РСФСР, СССР), біў пярун, лютавала навальніца, дождж ліў, як пот з ілба кіраўніка сакрэтнай спецслужбы ў Вашынгтоне, і не збіраўся спыняцца. Як ні дзіўна, у Маскве ў гэты момант была цёмная ноч. Ды што там цёмная! Цямнюткая, як у камеры на Лубянцы для палітычных зняволеных.

Кіраўніка аднаго сакрэтнага аддзела адной сакрэтнай спецслужбы СССР (якой канкрэтна таксама не ўзгадваецца з тае самай прычыны яе звышсакрэтнасці) вельмі бянтэжыў гэты нязручны для працы факт, што як у Вашынгтоне дзень, то ў Маскве абавязкова ноч. Ён лічыў гэта вялікай прыроднай несправядлівасцю, бо яго амерыканскі калега ў гэты момант мог плесці інтрыгі супраць Савецкага Саюза ў працоўны дзённы час, як і ўсе нармальныя людзі па той і па гэты бок ад жалезнай заслоны, а яму, аднаму з кіраўнікоў савецкай разведкі, прыходзілася рабіць гэта ноччу, як бандыту, калі ўсе астатнія савецкія людзі напоўніцу выкарыстоўваюць сваё законнае права на адпачынак і ціха сапуць сабе ў дзве дзіркі, як парасяткі ля свінаматкі, ці як сама свінка. І паралельна яшчэ разглядаюць каляровыя сны пра светлую будучыню працоўнага люду.

„Калі я ўжо высплюся? — сумна падумаў ён і прайшоўся ўздоўж доўгага стала свайго яшчэ даўжэйшага за сакрэтны тунэль пад Масквой-ракой кабінета. — Пакутую вось тут, як начны вартаўнік пры пустым калгасным складзе, дзе апошнае зярнятка мышы з'елі яшчэ да ўвозу Мікітам Хрушчовым амерыканскай кукурузы”.

Стол нічога не адказаў. Захоўвалі поўнае маўчанне і аднолькавыя, як блізнюкі, крэслы, што стаялі з абодвух бакоў стала. Маўчала і зялёная, як на карціне з Ульянавым-Леніным, настольная лямпа, і бронзавы бюст таго Ульянава-Леніна маўчаў, і цёмны, як труна вампіра, сакрэтны сейф, і тэлефон з выявай герба Савецкага Саюза на дыску, і намаляваны партрэт Фелікса Эдмундавіча Дзяржынскага на сцяне, і самі сцены таксама маўчалі. Такія халодныя і маўклівыя, як замарожаная нянавісць, сцены, хоць і абабітыя да паловы цёплым дрэвам шляхетнай пароды. Ой-ёй! Сцены! Спецслужбовец добра ведаў, што яны, сцены, умеюць не толькі маўчаць, але і слухаць, і нават гаварыць!

— Ды што я такое думаю? — спалохаўся спецслужбовец сваіх жа думак і азірнуўся па баках, нібыта правяраючы, ці не падслухаў хто яго думкі. — Няма нам спакою, пакуль не пераможа камунізм ва ўсім свеце! — гучна выкрыкнуў ён і зноў азірнуўся.

І правільна зрабіў. А хто яго ведае, ці праслухваюць у гэты момант тваё думкі ці не?! Ну не, смешнае пытанне! Смешнае, як кульгавы трактар на калгасным полі. Што праслухваюць, то гэта адназначна! Тут і да бабкі хадзіць не трэба. Праслухваюць як піць даць. Пытанне ў тым, хто іх праслухвае. Калі амерыканцы, ворагі, то гэта паўбяды. Што яны могуць зрабіць з тымі думкамі і з крыніцай іх узнікнення? А вось калі падслухаюць свае, роднанькія, то дабра не чакай... Можа скончыцца катастрофай горшай за Карыбскі крызіс.

А тут яшчэ гэтая анамальная навальніца, якая збівала з думак так, як рассейвае канцэнтрацыю ёгі ў позе лотасу звычайны банальны гемарой. Адзінае, што цешыла сэрца бывалага савецкага разведчыка, які пачаў сваю дзейнасць яшчэ юнаком у канцы вайны, выкрываючы „антысавецкія элементы” сярод мірнага насельніцтва Заходняй Беларусі, дык гэта тое, што ў Вашынгтоне з надвор'ем таксама нейкая незвычайная прыродная анамалія. Яго заўсёды істэрычна і пякельна радавала, калі ў Вашынгтоне штосьць не так. Бывала нават думаў: „Няхай у нас тут палова насельніцтва паздыхае, як атручаныя пацукі, абы і ў іх таксама не менш за палову здохла”.

— Думаю, што кіраўніку амерыканскай спецслужбы ў галаву прыходзяць думкі пагуляць пад спёкай голым, каб змяніць колер скуры і такім чынам заблытаць нас канчаткова, — задуменна прамыкаў кіраўнік спецслужбы савецкай і зрабіў нейкую пазнаку ў сваім нататніку. — Ну што ж, гэта было б разумна з яго боку. Умець мяняць аблічча вельмі важна для разведчыка. Не менш важна, чым... — тут ён хітравата ўсміхнуўся, але хутка выправіўся і зноў накінуў на твар заклапочана-працоўны выгляд, — змяніць колер скуры! Хм! Трэба аддаць належнае яго кемлівасці. І як гэта своечасова, улічваючы, што яго Амерыку хутка, як каналізацыйным люкам па галаве, накрые хваля паліткарэктнасці. Яны то не супраць нас рыхтуюць, каб высмеяць нашу камуністычную тэрміналогію. Ох і небяспечную гульню замуцілі. Гэта ж палка з двума канцамі. Глядзіш, адным і па сваёй галаве дастанеш. Так можна самому ўваліцца ў тую яму, што капаеш іншаму.

Савецкі спецслужбовец яшчэ крыху пафіласофстваваў у думках на тэму тэрміналогіі ідэалагічнай вайны і ўплыву лінгвістычных тэрмінаў на мысленне чалавека, а пасля зноў услых перайшоў да разваг пра справы надзённыя.

— Але ж ён на гэта ніколі не пойдзе — мяняць скуру! Я ж ведаю гэтага хітрага амерыканскага ліса! Рызыкаваць сабой у такую анамальную спёку пры яго досведзе будзе неабачліва. Можна жператварыцца ў кучку попелу пад тым вашынгтонскім сонцам. А галоўнае — ён жа не нудыст! І цярпець не можа нудыстаў...

Яго развагі нечакана, як інфаркт міякарда, перарваў яркі зігзаг бліскавіцы. Услед грымнуў пярун, ды так, што крамлёўскія зоркі на імгненне патухлі і адкінулі нейкія жудасныя цені, падобныя на знакі сектантаў. Але кіраўнік савецкай спецслужбы нават не здрыгануўся. Ён не баяўся нічога. Ні навальніцы, ні спёкі, ні сектантаў, ні шпіёнаў, ні свайго амерыканскага калегі-непрыяцеля, ні нават (страшна падумаць) самога Генеральнага сакратара Савецкага Саюза Леаніда Ільіча Брэжнева! Яго твар быў нерухомы, як у муміі Тутанхамона. І нават быў нечым падобны з выгляду. (Гэта моцна бянтэжыла савецкага спецслужбоўца, бо патаемна ён марыў быць падобным да іншай муміі. Да забальзамаванай постаці Уладзіміра Ільіча Леніна. Але нечым не дацягваў. І не ведаў чым. І бараду адгадоўваў, і кепку стараўся насіць па-ленінску. Усё адно нечага бракавала).

Але і ён быў не без страху. Чаго сапраўды пабойваўся савецкі разведчык, дык гэта нечаканага развалу СССР. Пры гэтым ён бачыў, як у яго краіне ўсё становіцца хісткім і ненадзейным, як калгасны плот, часова падпёрты калгасным жа алкаголікам.

— Мой бы вашынгтонскі калега ў такой сітуацыі спаслаўся б на чарговую індзейскую мудрасць, якія ён страшна любіць, — уздыхнуў спецслужбовец. — Прыкладам на такую, што калі ты заўважыў, што едзеш на мёртвым кані, то хутчэй злазь. Але ж я не індзеец і нават не амерыканец. Я — камуніст. А мы, камуністы, не маем нацыянальнасці. Затое мы не баімся цяжкасцей Мы нават самі сабе іх ствараем, а пасля самі ж мужна пераадольваем.

Разведчык задумаўся. У такой сітуацыі для яго важна было зраўняць шанцы з непрыяцелем і гэтак жа паспрабаваць развaліць ЗША. Толькі гэтая задача выглядала настолькі нерэальнай, што ён, расчараваўшыся ў ёй аднойчы, параіў адзін адсотак сродкаў, выдзеленых для гэтага разбуральнага праекта, скіраваць на асваенне космасу.

— Дзякуючы гэтаму, Юры Гагарын змог стаць першым чалавекам, які афіцыйна вырваўся з лап сваёй сацыялістычнай айчыны і паляцеў у космас. Праляцеўся вакол Зямлі, як ля публічнай прыбіральні, — успомніў спецслужбовец і ганарова ўзняў галаву, як на бюсце Ленін.

Затым спахмурнеў і прадоўжыў:

— А я не веры, што ён вернецца назад. Чамусьці ўсе, хто ад нас вырываюцца, назад не вяртаюцца. Асабліва як у Амерыку вырвуцца. От, гэтая Амерыка! Мне, бывае, здаецца, што мы толькі для таго і зрабілі рэвалюцыю, каб рускія яшчэ больш палюбілі Амерыку. А Юра Гагарын вярнуўся. Не ўцёк, хоць быў далёка за межамі СССР. Дзівак нейкі наш Юрачка. А можа, у будучым на партфель работніка Палітбюро меціў?! Можа, не такі ён і дзівак быў?!

А яшчэ больш, чым развалу СССР, спецслужбовец баяўся пацяплення адносін паміж Злучанымі Штатамі Амерыкі і Саюзам Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Віктар САЗОНАЎ

# Гісторыі сатканыя з ніцай — старое рукадзелле для будучыні

У будынку былога чыгуначнага вакзала ў Гайнаўцы яшчэ ў верасні адкрылася багатая выстава вырабаў рукадзельніц з Гайнаўскага і Бельскага паветаў «Гісторыі сатканыя з ніцай — старое рукадзелле для будучыні». Сто тканых, вышываных і вязаных кручком прыкладаў рукадзелля саставілі цікавую, вялікую экспазіцыю, якую арганізавала Культурнае аб'яднанне «Паштоўка» з Палічнай. Мастацкае рукадзелле выканалі народныя мастачкі з нашых беларускіх вёсак на працягу апошніх ста гадоў. Большасць экспанатаў мінуўшчыны — пакрывалы, палавікі, сурвэты, ручнікі, макаткі, абрусы, ці нават святочная вопратка — была пазычана ад іх уласнікаў, некаторыя з якіх прыбылі на выставу, каб расказаць пра ўнаследаваныя народныя вырабы.



У час адкрыцця экспазіцыі выступілі Агата Рыхцік-Скібінская з Культурнага аб'яднання «Паштоўка» (трэцяя злева), спецыяліст па народных тканінах і ўборах Патрык Паўлячык (другі злева) і Барбара Гаральчук з Мокрага (паказвае хустку)

Двухпавярховы будынак чыгуначнага вакзала ў Гайнаўцы быў збудаваны ў сямідзясятых гадах мінулага стагоддзя. Мне на працягу пяці гадоў вучобы ў Варшаўскім універсітэцепрыходзілася ў ім чакаць цягніка ў сталіцу. Цяпер, калі я зайшоў у даўно зачынены будынак вакзала, ажылі ўспаміны. Жыхары Гайнаўшчыны чакаюць, калі будзе здадзена ў карыстанне грунтоўна мадэрнізаваная чыгуначная лінія з Гайнаўкі ў Бельск-Падляшскі, на якой рух цягнікоў быў спынены яшчэ ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя. На адкрыцці выставы наведвальнікі глядзелі не толькі экспазіцыю, але і будынак вакзала, з якога адпраўляліся ў свет за адукацыяй і на працу. Частку іх састаўлялі пенсіянеры. Маючы многа вольнага часу, некаторыя пачалі вязаць кручком і вышываць, карыстаючыся даўнімі ўзорамі, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Сярод наведвальнікаў былі маладыя асобы, а таксама жыхары Гайнаўшчыны сярэдняга ўзросту, якія захоўваюць тканыя, вышываныя і карункавыя работы, выкананыя іх бабулямі і прабабулямі.



Лена Борак з Істока каля сваёй макаткі



Ніна Хіліманюк з Дубіч-Царкоўных побач свайго пакрывала ў пераборы

На экспазіцыі былі размешчаны работы, выкананыя ў розных перыядах мінулага стагоддзя. Найстарэйшае рукадзелле было зробленае ў першых яго дзесяцігоддзях. Раней галоўны арганізатар выставы Агата Рыхцік-Скібінская з Аб'яднання «Паштоўка» з дапамогай сяброў заязджала да вясковых жанчын, якія захавалі сваё рукадзелле і работы сваіх продкаў, разглядалі вырабы, фатаграфавалі і апісвалі.

— Рэалізуючы праект «Гісторыі сатканыя з ніцай — старое рукадзелле для будучыні» мы наведваем уласнікаў даўняга рукадзелля, рэгіструем і апісваем прыклады народных вырабаў. Запісваем самыя цікавыя гісторыі спалучаныя з рукадзеллем. Арганізуем выставы вырабаў, намагаемся захаваць ад забыцця даўняе мастацтва, якое надалей застаецца ва ўладанні нашчадкаў. Прапануем карыстацца ўзорамі і распрацоўкамі народнага рукадзелля, ствараць на іх аснове сучасныя кампазіцыі, — паінфармавала Агата Рыхцік-Скібінская з Аб'яднання «Паштоўка», арганізатар выставы і каардынатар праекта, які рэалізуецца дзякуючы падтрымцы Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны.

У рэалізацыі праекта Агаце Рыхцік-Скібінскай дапамагае спецыяліст па народных тканінах і ўборах Патрык Паўлячык — захавальнік у Аддзяленні этнаграфіі Польшчы і Еўропы Дзяржаўнага этнаграфічнага музея ў Варшаве. Пасля адкрыцця выставы расказваў ён пра асаблівасці народнага рукадзелля сабранага ў Гайнаўскім і Бельскім паветах і адказваў на пытанні сабраных. Пра ткацкія традыцыі распавяла Барбара Гаральчук з Мокрага, якая запрэзентавала вялікую хустку з воўны і вопратку сваёй прабабулі, у якой яна вянчалася.

— Мая прабабуля вянчалася ў 1910 годзе. На многіх тут сабраных працах, ручніках, посцілцы, ці сурвэтах прыкметная беларуская сімволіка, характэрная для нашага рэгіёна. На тканым і вышываным рукадзеллі вельмі важнымі былі колеры, напрыклад, чырвоны колер быў сімвалам кахання, актыўнасці, — сказала Барбара Гаральчук.

Спецыяліст па народных тканінах і ўборах Патрык Паўлячык асаблівую ўвагу звярнуў на даўнія пакрывалы, выкананыя ў пераборы, на якіх захаваліся цікавыя ўзоры і матывы з птушкамі і раслінасцю, якіх няма ў іншых рэгіёнах Польшчы. Пра арыгінальнасць такіх матываў гаварылі таксама жанчыны з Гайнаўкі, якія захоўваюць даўняе рукадзелле ў сваіх дамах.

— На прэзентаваным тут рукадзеллі захаваныя беларускія матывы і ўзоры, якія перадаваліся на нашай тэрыторыі з пакалення ў пакаленне і якія варта захоўваць, — заявіў дырэктар Гайнаўскага белліцэя, ваяводскі радны Ігар Лукашук.

— Мая цешча Надзея Гэрцун, з дому Гурын, выканала гэтую прыгожа вышываную макатку з паўлінамі і расліннасцю яшчэ ў Арэшкаве, перад тым як выйшла замуж у Істок. Пасля я стала яе ўласніцай і пазычыла на выставу. Я рада, што тут паказваецца так многа рукадзелля, якое часта было схаванае ў шафах. Раней пакрываламі засцілалі ложкі і тапчаны, макаткі ўпрыгожвалі сцены драўляных дамоў. Цяпер мала яны выкарыстоўваюцца ў якасці аздобы пакояў і кухняў. Аднак, так як паявілася мода на ручнікі, можа паявіцца мода і на макаткі, — распавяла Лена Борак з Істока.

Зараз тканае, вышыванае і гафтаванае рукадзелле, выкананае нашымі бабулямі, трапна называецца мастацтвам. Нашы прабабулі ведалі як умела састаўляць колеры і ўзоры на вышываных ручніках, абрусах, макатках, ці пакрывалах. Важныя былі традыцыі, але жанчыны таксама карысталіся сваімі аўтарскімі распрацоўкамі, калі тыя не выходзілі па-за межы пэўных канонаў.

— У мяне ёсць даўняе тканае, вышыванае і карункавае рукадзелле, выкананае ў мінулым. Я надалей займаюся тканнем, вучу як ткаць і прыехала сюды, каб паглядзець вельмі цікавыя вырабы рукадзелля, выкананыя нашымі продкамі. Можа некаторыя тут прэзентаваныя работы стануць для мяне інспірацыяй для выканання аўтарскіх праектаў для майго тканага рукадзелля. Я ткала і ў 4 нічаніцы, і ў 8 нічаніц, але найбольш складана ткаць у пераборы, паколькі для такой працы патрэбныя дзве асобы, а я наогул тку самастойна, — заявіла Ірэна Ігнацюк з Ляўкова.

— На выставе ёсць некалькі маіх пакрывалаў. Гэтае пакрывала з паўлінамі і іншымі ўзорамі, вытканае ў пераборы з воўны, выканала мая мама, Марыя Чыквін з Чахоў, якая родам з Залешан. У мінулым усе ткалі, вышывалі і кручком выконвалі карункі. Цяпер мала хто займаецца тканнем, але захавалася многа рукадзелля з мінулага, якое толькі часткова мы выкарыстоўваем. Тут можна паглядзець выкананыя рознымі тэхнікамі і з рознымі ўзорамі пакрывалы. Прыгожую вышыўку відаць на ручніках, макатках. Добра, што арганізуюцца выставы рукадзелля, што маладыя прыйшлі пaглядзець тое, што ў мінулым выконвалася доўга, з вялікай цярплівасцю і мела такую вялікую вартасць, — расказала Ніна Хіліманюк з Дубіч-Царкоўных.

З жанчынамі з Дубіцкай гміны прыехала дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Дубічах-Царкоўных Мірaслава Іванюк.

— Раней мы збіралі рукадзелле ў Дубіцкай гміне ў рамках праекта «Гісторыі сатканыя з ніцай — старое рукадзелле для будучыні». Пасля апісвалі ручнікі, пакрывалы, абрусы і сурвэты. Паказвалі мы рукадзелле, між іншым, на выставах у нашай гміне. У Гайнаўцы прэзентуецца рукадзелле жанчын з Дубіцкай гміны — Ніны Хіліманюк з Дубіч-Царкоўных і Лены Борак з Істока.

Раней быў перыяд, калі дзеці і ўнукі пераcталі цікавіцца тканымі, вышыванымі і карункавымі работамі сваіх мам і бабуль, і не хацелі браць з сабой у горад рукадзелля, якім так даражылі ў мінулым іх продкі. Апошнім часам нашчадкі вясковых жанчын сталі даражыць работай сваіх мам і бабуль, — успамінала дырэктар ГАК у Дубічах-Царкоўных Мірaслава Іванюк.

— Раней наша даўняе рукадзелле можна было купіць за невялікія грошы. Цяпер дзеці і ўнукі вясковых майстрых пакідаюць сабе старыя ручнікі, пакрывалы і абрусы, якія сталі моднымі і з'яўляюцца памяткай па продках, — заявіла жанчына з Гайнаўкі.

— Тут можна ўбачыць цікавыя ручнікі, пакрывалы, макаткі і многа іншых вырабаў. Я таксама сабрала рукадзелле па сваіх продках, якое знаходзіцца ў маёй роднай хаце ў вёсцы, — сказала Тамара Ядасюк з Гайнаўкі.

— У нашых дамах у вёсках стаялі калаўроткі, кросны і такія пакрывалы, ці абрусы выконвалі нашы мамы і бабулі. Маладыя дзяўчаты многа і цяжка працавалі, каб назапасіць пасаг, з якім адпраўляліся ў дом мужа. Дзяўчаты, у якіх было больш абрусаў, ручнікоў і макатак, лічыліся больш працавітымі, — гаварыла старэйшая наведвальніца выставы.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

5 ☞ працяг

кажучы, не бачу ніякіх урадавых праграм, якія б задумваліся над гэтай праблемай. Мая фірма ўладкоўвае на працу каля трох тысяч асоб, галоўным чынам у замежжы, у мяне шырокі дыяпазон адукацыйных патрэб. Калі запрашаем на стаж у фірму, то высновы, на жаль, сумныя. Тыя працаўнікі маюць адносна вялікія тэарэтычныя веды, якія ніяк маюцца да нашых патрабаванняў. Пасля некалькіх месяцаў стажу тыя студэнты часта гавораць, што ў фірме навучыліся больш чым цягам двух-трох гадоў навукі. Маладым людзям цяпер істотныя ўмовы працы, грошы важныя, але таксама іншыя фактары вырашаюць ці працаўнік застанецца ў фірме ці не. Гэта атмасфера ў працы, арганізацыйная культура і т.п. Дзякуючы такім дзеянням ратацыя працаўнікоў у фірме меншае.

**Эва РОЛЬНІК-САДОЎСКА**: — Пытанні зарплаты і арганізацыйнай культуры важныя, але важныя таксама кошты жыцця. Тут важная роля і лакальных улад, ствараючых умовы для жыцця: жыллёвыя ўмовы, транспарт, доступ да культуры і г.д. Парадаксальна — той факт, што маем лепшую дарогу ў Варшаву, стымулюе дрэнаж мазгоў, бо зараз можна жыць у Беластоку і даязджаць на працу ў Варшаву, бывае, што 100 ці 200 кіламетраў гэта не бар'ер.

**Анна ВОЛЬСКА**, Інстытут даследавання адукацыі: — Зараз найбольш вучымся, у прынцыпе, не ў школе, але ў месцы працы. І, канчаючы школу, выпускнікі не нарыхтаваны да канкрэтнай працы, тут кампетэнцыйны прабел. Трэба вучыцца цягам усяго жыцця і хіба пачынаць адукацыю трэба як найраней, каб прызвычайваць людзей да пастаяннай навукі, да шматразовай змены кваліфікацый.

**Багдан ЛУКАСІК**: — Зараз ніякая школа не ў змозе паспяваць за тэхналагічным прагрэсам. Кампетэнцыйны прабел у Польшчы намнога меншы чым на Усходзе. Выпускнікі тамашніх школ, прыкра гэта гаварыць, усіх кампетэнцый вучацца ў фірме. Гэта каштуе, асабліва многа часу. Жывём у такі час, што мусім пастаянна павышаць свае ўмеласці; свет вельмі моцна паскорыў. Калі цяпер прадпрыемства не ў змозе вучыць сваіх працаўнікоў ці матываваць іх да навукі, то ў рынкавым спаборніцтве яно прайграе.

**Раман КАЛЕТА**: — Маем адаптацыйныя праграмы, пастаянна абучаем. Уваходзім у эпоху аўтаматызацыі, робатызацыі, то патрэбныя нам новыя кампетэнцыі — праграмісты, праграмісты робатаў; адзін такі курс каштуе трынаццаць тысяч, а нам такіх трэба пятнаццаць на робаты розных фірм. З ніводнай вучэльні не прыйдзе такі выпускнік, які ўмеў бы запраграмаваць робата Кука, гэта немагчыма, гэтаму мусіць навучыцца ў нас, гэта вялікія кошты. Але такі чалавек, які гэтаму навучыцца, падпісвае лаяльнасную дамову. Зараз ствараем такія патокі: ці для нейкага прадукту, ці на нейкі рынак — і там мусяць быць універсальныя людзі, гэта праблема полівалентнасці, калі чалавек мусіць асвоіць некалькі ўмеласцей, працаваць на некалькіх машынах. Тут, у нас працуе трынаццаць працаўнікоў з Украіны, якіх мы самі прыцягнулі; не з агенцтва, бо мелі мы такое агенцтва, але там прапанавалі выпадковых людзей, а ў нас пастаянныя рабочыя, якія працуюць некалькі гадоў, нават з сем'ямі. Але праблемай з'яўляецца моўны бар'ер — яны не ўмеюць чытаць нашых інструкцый, ні тэхнічных чарцяжоў, дзе польскія апісанні.

**Павел ВАЙЦЯХОЎСКІ**: — Тэхналагічны прагрэс мае для рынку працы адмоўнае і станоўчае ўздзеянні. Можа наступіць г.зв. тэхналагічнае беспрацоўе, калі не стане працы, калі будуць працаваць толькі машыны. Гэта пытанне будучыні, калі структура працы зменіцца, але некаторыя прафесіі астануцца. А цяпер, для прыкладу: не хапае лекараў у Польшчы і некаторыя гаварылі, што трэба іх прымусіць застацца, даць больш зарабіць. Але такая спроба была ў Чэхіі і яна не апраўдалася. Разумным рашэннем было б так зладзіць працу лекараў, каб яны займаліся лячэннем, а не бюракратыяй, каб даць ім асістэнтаў, якія іх абслужаць. Бо ж і тут першае пытанне: колькі атрымаю на рукі. Другое: якая будучыня. І мусіць быць матывацыя працаўнікоў перспектыўным працоўным працэсам. Прагнозы, што не будзе працы, несапраўдныя. Будзе іншая, кагнітыўная, значыць з адукацыйным ціскам.

**Раман КАЛЕТА**: — Першыя крокі робатызацыі заўсёды прыносяць добрыя вынікі, зараз у нас лінію, на якой працуе робат, абслугоўвае чатырох працаўнікоў, а раней было 24 і яна выпрацоўвае зараз больш чым раней. Іншая справа гэта эрганомія. Зваршчыкаў зараз складана знайсці, таму для зграявання ўводзім робаты. Але аўтаматызацыя і робатызацыя не заменяць усяго. Фабрыка мэблі мае шмат рабочых месцаў, дзе трэба складваць тыя шафы, прыкручваць замкі, завесы. Робаты гэтага не зробяць, асабліва калі вытворчая серыя кароткая ці спецыяльная, калі заказчык мае індывідуальныя патрабаванні і г. д. Робатызацыя любіць паўтаральнасць і доўгія серыі.

**Багдан ЛУКАСІК**: — Знікаюць звычайныя касы, заказваем тавар цераз інтэрнэт, лішнімі становяцца гандлёвыя паверхні. Але працаўнікі супермаркетаў неабавязкова страцяць працу. Патрэбы кліентаў зараз змяняюцца. У Скандынавіі адна з гандлёвых сетак устанавіла спецыяльныя касы, павольныя касы, дзе касірка абавязана паразмаўляць са сваімі кліентамі. Грамадства старэе, сем'і, часта аднаасабовыя, выходзяць у краму менавіта дзеля таго, каб мець магчымасць паразмаўляць. Таксама ў прылаўках, напрыклад, у кандытарскім ці мясным, дзе пакупнік браў гатовыя ўпакаваныя тавары, зараз з'яўляюцца пекар ці мяснік, якія на месцы нарыхтуюць тое, што пакупніку патрэбна. Вырастае абслуговая сфера грамадскай занятасці.

(працяг будзе)

Аляксандр ВЯРБІЦКІ

## http://shuma.by

Каля 10-15 гадоў таму ў беларускай музычнай палітры гучна стала чуваць этнафалькорныя гурты. Звычайна яны гралі на старадаўніх інструментах, якія мала каму з сучасных музыкаў патрэбныя. Але ўсё цячэ і ўсё змяняецца, і цяпер стала модна граць старадаўнюю музыку пад сучасныя інструменты. Так узнік музычны напрамак электра-фолк. Адным з яскравых прыкладаў яго з'яўляецца дзейнасць гурта „Shuma", які летась нават меў шанц з'явіцца на Еўрабачанні — гурт прайшоў у групу фіналістаў беларускага нацыянальнага адбору. Праўда, у выніку на міжнародны конкурс ад Беларусі паехала ўкраінская поп-зорка Мікіта Аляксееў, вядомы як Alekseev.

Што ж тычыцца „Shuma", то леташняй спробай трапіць на Еўрабачанне яе дзейнасць не скончылася. Каб у гэтым упэўніцца варта зайсці на сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://shuma.by**.

Першы погляд на старонку гурта ў Сусветным павуцінні не ўражвае. На ім пераважаюць шэрыя, чорныя і белыя фарбы. У левым верхнім вугле месціцца лагатып „Shuma" — стылізаваная літара S. Побач з ёй — выйсці да нешматлікіх рубрык, а ўніз па галоўнай старонцы — здымкі з кліпаў гурта і невялікія расповеды пра гэтыя творы.

У рубрыцы „Аб праекце" месціцца не вельмі многа інфармацыі. „Shuma" — гэта жывы электронны праект, у межах якога сумяшчаюцца архаічныя спевы Беларусі і розныя стылі сучаснай электроннай музыкі (Electronic, IDM, Acid jazz, Bass, Ambient, Techno, Digital Archaica, Folktronica, Chillstep, Ethno-Electronic, Future Beats і інш.)", — распавядаецца там. Пры гэтым шмат звестак пра тых асоб, якія так ці інакш датычныя да дзейнасці „Shuma".

Больш інфармацыі аб гурце можна атрымаць на старонніх рэсурсах. Напрыклад, на Sputnik.by. Там, у прыватнасці, распавядаецца, што гурт быў створаны яшчэ ў 2011 годзе і з тых часоў яго склад не змяняўся. Салістка гурта Руся — (Марына) Шукюрова. У 1980 годзе яна нарадзілася на Палессі, мае прафесію настаўніцы беларускай і англійскай моў, вучылася ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце ў Вільні. Зараз жанчына не толькі спявае ў „Shuma", але і выкладае „дызайн голасу", займаецца агучкай беларускамоўных праектаў і падтрымкай даследаванняў беларускай культуры.

Акрамя Русі, неад'емнай часткай „Shuma" з'яўляецца Аляксей Будзько — дыджэй і кантрабасіст. Таксама ў гурце спявае выпускніца мінскага Інстытута культуры Надзея Чугунова.

Што ж тычыцца плёну апошніх год дзейнасці электра-фолькавага калектыву, то пра яго можна даведацца, наведаўшы старонкі „Музыка", „Відэа", „Фота". Анатацыя да кліпаў раскрывае іх сутнасць. Напрыклад, датаваным найпазнейшым часам кліп „Galochki" распавядае пра стаўленне дзвюх дзяўчат да сябе, адна да адной, да сумесных вопытаў і назіранняў. Пра ўнутраную сілу, узаемную цягу і нуду, пра вецер у галовах і самадастатковасць, якая не гоніць іх замуж у адрозненне ад сямейных традыцый.

„Shuma" кранае такія кантраверсійныя тэмы, як, напрыклад, жыццё таго, хто нарадзіўся не таго полу, якім гэты чалавек сябе ўсведамляе.

Таксама на сайце гурта ёсць старонка (http://ornaments.shuma.by), дзе пазначаны знакі беларускага арнаменту з кароткай інфармацыяй аб кожным з іх.

Аляксандр ЯКІМЮК

Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

### 90 гадоў з дня нараджэння

# Івана Лепешава

Беларускі мовазнавец, літаратуразнавец Іван Лепешаў нарадзіўся 23 кастрычніка 1924 г. у вёсцы Іскозы (Дубровенскі раён Віцебскай вобласці). У 1940 г. скончыў 8 класаў, здаў экстэрнам экзамены за 9 класаў і паступіў у Аршанскі настаўніцкі інстытут, вучоба ў якім была перапынена надыходам нямецка-савецкай вайны. У 20 гадоў быў мабілізаваны ў войска і з 1944 г. ваяваў на фронце, быў паранены пры вызваленні Кёнігсберга. Быў узнагароджаны ордэнам і трыма медалямі.

Пасля вайны Іван Лепешаў у 1948 г. скончыў Аршанскі настаўніцкі інстытут, быў размеркаваны ў Свіслацкую сярэднюю школу Гродзенскай вобласці. Там працаваў настаўнікам беларускай мовы. У час сталінскіх рэпрэсій беспадстаўна засуджаны да зняволення. Яго звінавацілі ў тым, што ў час нямецкай акупацыі нібыта служыў у паліцыі. У высылцы ў 1949-1955 гг. працаваў рознарабочым у савецкіх канцлагерах Прыморскага краю. Намнога пазней — у 1963 г. — рэабілітаваны за адсутнасцю віны.

З 1956 г. Іван Лепешаў працаваў настаўнікам беларускай і рускай моў і літаратур у школах: спярша ў Мошталерскай сямігадовай школе Скідзельскага раёна, потым у Берштаўскай сярэдняй школе Шчучынскага раёна. Працуючы ў школе, апублікаваў у выдавецтве „Народная асвета" дзве свае кнігі „Изготовление и использование таблиц по русскому языку" (1966), „Литературно-краеведческий кружок" (1969), якія былі высока ацэнены тагачаснай метадычнай навукай. У 1959 г. завочна скончыў на выдатна філалагічны факультэт Гродзенскага педагагічнага інстытута, а ў 1971 г. — аспірантуру ў Мінскім педагагічным інстытуце. У 1973 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме „Проблемы фразеологической стилистики и фразеологической нормы в современном белорусском литературном языке". Узнагароджаны знакам „Выдатнік народнай асветы".

З 1971 г. Лепешаў працаваў у Гродзенскім педагагічным інстытуце (пасля ўніверсітэце) спачатку выкладчыкам, затым дацэнтам (1973), прафесарам (1986). Быў вельмі зычлівым інтэлігентным чалавекам, якога любілі і паважалі студэнты. Меў выразную грамадзянскую пазіцыю, але пра сваё лагернае мінулае ўспамінаць не хацеў.

Кола навуковых інтарэсаў вучонага-філолага было шматгранным. Найперш гэта даследаванні ў сферы фразеалогіі, якой аўтар прысвяціў больш за 10 кніг. Адна з самых значных — манаграфія-дапаможнік „Фразеалогія сучаснай беларускай мовы" (1998), якая з'яўляецца вынікам шматгадовых тэарэтычных напрацовак даследчыка. Па глыбіні вырашэння шматлікіх, часта спрэчных пытанняў, у сферы фразеалогіі яна самая грунтоўная ў славянскай фразеалагічнай навуцы. Шмат увагі Іван Лепешаў надаваў даследаванню іншых моўных з'яў, займаўся праблемамі парэміялогіі, лексікалогіі, граматыкі, культуры мовы, стылістыкі, мовы мастацкай літаратуры і іншым.

Іван Лепешаў — аўтар 520 навуковых, навукова-метадычных публікацый, больш як 40 кніг („Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў", „Лінгвістычны аналіз тэксту", „У пошуках ісціны", „Надзённае", суаўтар „Практыкума па беларускай мове" ды інш.). Для стварэння „Фразеалагічнага слоўніка беларускай мовы" ў двух тамах аўтар прачытаў амаль усю беларускую мастацкую літаратуру, каб адшукаць і выпісаць дзясяткі тысяч фразеалагічных цытат.

Памёр Іван Лепешаў 12 кастрычніка 2014 г., зусім крыху не дажыўшы да 90 гадоў. Пахаваны на гродзенскіх могілках „Аульс".

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Як у Чаромсе галасавалі?

13 кастрычніка натура не паскупілася на цеплыню і сонечныя прамені. Адпаведны час на шпацыр і адпачынак на ўлонні натуры. У гэты дзень у краіне праходзіла ўсеагульнае галасаванне ў парламент Рэчы Паспалітай. У Чаромхаўскай гміне яўка на выбарах склала 45,96%. У Чаромсе працавалі дзве выбарчыя акругі: № 1 — у Гмінным асяродку культуры для жыхароў пасёлка і № 2 — для салэцтваў. У акрузе № 1 правам голасу карысталася 1928 жыхароў. Выдадзеных было 768 карт для галасавання; у акрузе № 2 прапісаных было 933 жыхары з правам голасу, выдадзена 306 карт. У агульным падліку ў Чаромхаўскай гміне ў галасаванні ўдзельнічала 1239 чалавек, што складае 45,96% упаўнаважаных для галасавання.

А вось як маецца размеркаванне галасоў на паасобныя выбарчыя камітэты:

**КАНДЫДАТЫ Ў СЕЙМ**

| Выбарчы камітэт | Акруга № 1 | Акруга № 2 | Агулам галасоў |
|---|---|---|---|
| ПСЛ | 74 | 39 | 113 |
| ПіС | 354 | 92 | 446 |
| СЛД | 156 | 50 | 216 |
| Канфедэрацыя | 46 | 20 | 66 |
| Грамадзянскаяплатформа | 259 | 83 | 341 |
| Акцыя расчараваных пенсіянераў | 10 | 3 | 13 |
| Кааліцыя беспартыйных і самаўрадаўцаў | 6 | 4 | 10 |
| Дзейсныя Пятра Лірояа-Марца | 6 | 3 | 10 |

**КАНДЫДАТЫ Ў СЕНАТ:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Яцэк Багуцкі — ПіС | 351 | 103 | 454 |
| Ігар Лукашук — Кааліцыя ГП | 503 | 158 | 661 |
| Сяргела Альдона-Анна — Самаабарона | 57 | 37 | 9 |

**Уладзімір СІДАРУК**

ШЧЫТЫ SZCZYTY

XX6 Бардаўская восень 2019

26.10 ORLA

HMINNY ASIARODAK KULTURY 17:00

SIARHIEJ BASZLYKIEWICZ

27.10 BIEŁASTOK

PADLASZSKAJA OPERA I FILARMONIJA 15:00

ZMICIER WAICIUSZKIEWICZ

ILO&FRIENDS

SIARHIEJ BASZLYKIEWICZ

JAUHIEN BARYSZNIKAU

OPERA PODLASKA

# Белавежская дэмаграфія

Белавежская гміна Гайнаўскага павета ўся ў Белавежскай пушчы — усе восем яе населеных пунктаў. У Белавежы зараз пражывае 1640 чалавек, Грудках — 165, Чарлёнцы — 76, Тэрамісках — 68, Будах — 67, Пагарэльцах — 53, Звярынцы — 4 і Падцэрквах — 3.

У перыяд з 1 студзеня 2016 года да 16 кастрычніка 2019 года ў Белавежы лік жыхароў паменшаў на 74 чалавекі, Грудках — на 11, Чарлёнцы — на 8, Тэрамісках на 7, Пагарэльцах — на 5, Будах — на 4 і ў Звярынцы — на 1, а ў Падцэрквах не паменшаў і не пабольшаў, гэтакі сам. За гэты час лік жыхароў пушчанскай гміны паменшаў на 110 чалавек.

Сёлета ў Белавежскай гміне нарадзілася 17 дзяцей і памерлі 35 чалавек, было 19 вяселляў, а юбілей 50-годдзя шлюбнага жыцця святкуе 9 пар. **(яц)**

# 27.10 — 02.11

**(22.03. — 20.04.)** 27-30.10. прыдасца табе прытомнасць розуму — трэба будзе развязаць жыццёвую праблему ў фірме. Калі вядзеш уласную дзейнасць, будзеш мець многа кліентаў. Какосаў не будзе, але не будзеш лічыць кожнага грашака. Але 2.11. можа табе хтосьці падкрасці ключавога кліента! 27-31.10 можаш прыхварэць, прастудзіцца, асабліва калі памочыш ногі. У лістападзе не будзеш наракаць на нуду!

**(21.04. — 21.05.)** 27.10. можаш сустрэць кагосьці, хто цябе захопіць. 29-30.10. урэшце кагосьці пераканаеш да сябе! Але мусіш быць забаўны, дасціпны, нават шалёны. Маладзік Месяца 27-29.10. можа схаваць перад табою факты, аб якіх ты мусіш ведаць. Шмат прыемнасці і радасці. Дасі рады ў фінансах і кіраванні вялікімі праектамі. Можаш падпісаць важную дамову. Затое крыху аслаблены арганізм, таму прыслухоўвайся да нават малых нямогласцей.

**(22.05. — 22.06.)** 27-28.10. у кашальку можаш убачыць дно. У лістападзе будзеш крыху хадзіць вобмацкам. Засяродзься на сваім нутры. На пачатку лістапада здасца табе, што ў фірме нічога не адбываецца, але гэта ілюзорна. Канкурэнцыя не спіць! Не ўпускай дэталяў, бо могуць аказацца вельмі важнымі.

**(23.06. — 23.07.)** 29-31.10. шчыра паразмаўляй, развееш сумненні. 27-30.10. можа ахапіць цябе цяжкая прастуда. 27-29.10. не праваронь нагоды да наладжвання цікавага знаёмства; можаш натрапіць на думку, як пазбавіцца ад праблем. Еж вітаміны ў натуральнай форме. У лістападзе паправіш памылкі. Калі на чымсьці табе залежыць, узбройся ў цярплівасць. Не павучай сяброў.

**(24.07. — 23.08.)** 27-30.10. можаш адчуць сябе пакінутым; але калі хочаш змяніць працу, шлі тады Сі-Ві, у час размоў не хлусі, нават дробненька, бо страціш шанц на добрую работу. Могуць паявіцца праблемы ў хаце, якія могуць легчы ценем на стасункі на працы. Вынікі на працы будуць найлепшыя, калі не будзеш сапернічаць і паказвацца. Фінансава не пад горку, але падвучвайся.

**(24.08. — 23.09.)** 29-31.10. будзеш аб'ектам чыёгасьці захаплення; дай гэтай асобе шанц; можаш у гэты час правесці карысную фінансавую аперацыю. У лістападзе выйдзеш з ценю. Атрымаеш дапамогу, якой не спадзяешся. Пачні трэніравацца. У пачуццях — як у казцы! Трымайся, усё ж, рэаліяў.

**(24.09. — 23.10.)** 29-31.10. прыліў грошай, хаця дробных, але ўсё ж. Але ж 27-31.10. можаш адчуваць сябе духова на нізе. 27-30.10. твае планы могуць быць знявечаныя; не ўключайся ў закулісныя інтрыгі. Калі хочаш штосьці змяніць, пачынай з пачаткам лістапада. Узірайся на сваю скуру, калі штосьці цябе занепакоіць, адразу сходзі да лекара.

**(24.10. — 22.11.)** 27.10. будзеш маэстра зачароўвання! 27-29.10. адчуеш сябе дапешчаным блізкімі. Сходзі да касметолага, цырульніка. Каля 2.11. не рэагуй нервова. У лістападзе шыкуюцца сардэчныя камплікацыі, цяжка будзеш разумець сігналы ад іншых і нават свае. На пачатку лістапада будзеш стомлены, слабы, санлівы; парабі медабследаванні.

**(23.11. — 22.12.)** 27.10. можаш наладзіць добрую здзелку. 27-28.10. паявіцца фінансавая нагода, якой ты раней не выкарыстаў. Калі адчуеш, што ты хворы, адразу кладзіся ў ложак. 27-30.10. можаш штосьці няхочучы знішчыць, папсаваць. Памылкі, якія можаш зрабіць 26-31.10., могуць табе многа каштаваць. У лістападзе трэба будзе прытармазіць і змяніць курс. Але іншы пол ашалее на тваім пункце. Будзеш падабацца і знойдзеш новых сяброў, будзеш мець добры нос да інтарэсаў.

**(23.12. — 20.01.)** 27.10. хтосьці можа закрунуць табе ў галаве, але будзь пільны, слухаючы камплімента. 29-31.10. няблага бачыцца будучыня новых знаёмстваў тады наладжаных. Да 30.10. магчымыя праблемы са страваваннем, дык варта ачысціцца, напрыклад, напарам з крапівы. У лістападзе зоймешся тым, што цяжкае, але неабходнае. Але не папраўляй таго, што дзейнічае добра!

**(21.01. — 19.02.)** 27-29.10. у сям'і будзе бура, прытым з-за цябе. 27-30.10. адбудзецца штосьці, што будзе для цябе як халодны душ. На працы таксама шмат замяшання. Тваім амбітным планам могуць перашкодзіць нейкія ранейшыя забавязанні або вылезуць старыя памылкі Шукаючы новую працу, спадзявайся, што твой жыццяпіс праверацьда апошняй ніткі; дбай таксама, каб змест размоў не трапіў у чужыя вушы. У лістападзе будзеш незалежны і высветліш цяжкія справы; атачайся колерамі.

**(20.02. — 21.03.)** 27-29.10. пазнаеш факты, якія былі ад цябе схаваныя. 29-31.10. спадзявайся прызнанняў. Будзеш настроены сантыментальна, разглянеш архіўныя матэрыялы. 27-31.10. магчымая атака алергіі, насмарку, асабліва ў Рыб з трэцяй дэкады. Не пераацаняй інфармацый пра залатыя горы, якія пачуеш 29-31.10. У лістападзе прыйдзецца закасаць рукавы, але будзеш задаволены абавязкамі; будзеш таксама дбаць аб здароўе сваё і блізкіх.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. карэнны жыхар Маўрытаніі = 16 _ 17 _ 12 _ 13 _;
2. вадкасць, якая „здабываецца” цяжкай працай = 5 _ 14 _ 15 _;
3. мера вагі каля 16 кг = 1 _ 9 _ 10 _;
4. вымяраецца ў гадах, гадзінах = 8 _ 6 _ 3 _;
5. багатае эстраднае відовішча = 7 _ 2 _ 20 _;
6. франтон двухскатнага даху, які дамінуе ў... Дзенцялове і Навадворах = 18 _ 19 _ 11 _ 4 _.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | |
| | | | 10 | 11 | | 12 | 13 | 14 | 15 | |
| | | | | | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 39 нумара**

Кашка, мемуары, сеянка, узор, яда.

Рашэнне: **Шкада красы, якая не мае розуму**.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

Лёсы Беларусаў Беласточчыны

# Усе ўлады не давалі спакойна жыць

Жыхарка Дзятлава Раіса Аўцюшэня мала што ведае пра тое, што яе бацькоў пасля Другой сусветнай вайны выгналі з роднай Беласточчыны. Ды і пра лёс сваякоў бацькі Міхаіла Аўцюшэні яна нічога не чула. Трохі ведае пра лёс маці — Куклінскай Лідзіі Іванаўны. І тое, што некалі яе сваякі жылі ў Польшчы. Але Раіса Аўцюшэня захоўвае ў сваім хатнім архіве старыя дакументы і фотаздымкі родных людзей з Беласточчыны.

Раіса Аўцюшэня паказала мне пасведчанне аб шлюбе № 2 яе маці Куклінскай Лідзіі і бацькі Аўцюшэні Міхаіла. Куклінская і Аўцюшэня зарэгістравалі свой шлюб 14 кастрычніка 1940 года ў Рафалаўскім сельскім савеце Заблудаўскага раёна. Якраз перад нямецка-савецкай вайной. А ў канцы вайны 16 жніўня 1945 года ў іх нарадзілася дачка Раіса. Спадарыня Раіса захоўвае і метрычнае пасведчанне з пячаткамі і штампамі. У ім паведамляецца наступнае: „У копіявай метрычнай кнізе Беластоцкага Свята-Мікалаеўскага сабору за 1945 год у частцы 1 — „Пра тую, якая нарадзілася пад № 66, маецца наступны запіс: „1945 года жніўня 16 дня нарадзілася, а 16 верасня хрысцілася Раіса. Бацькі: жыў у Беластоку з г. Бабруйска Міхаіл Рыгоравіч Аўцюшэня, 35 гадоў і павянчаная жонка яго Лідзія Іванаўна, народжаная Куклінская, 29 гадоў, абое праваслаўныя. Таямніцы святога хрышчэння правёў святар Сцяпан Іванкевіч. Настаяцель сабора — протаіерэй Іосіф Гушкевіч".

Раіса Аўцюшэня памятае, як маці ёй распавядала пра месца жыхарства, што жылі яны на Беласточчыне ў вёсцы Лук'яны. Дзед Куклінскі Іван — мамін бацька — быў вельмі адукаваным чалавекам. Шмат чытаў і многа ведаў. У гады вайны яго арыштавалі немцы і чуць не расстралялі. „Але мама з бабуляю нагналі самагонкі і за самагонку выратавалі дзеда. Яны немцам далі самагонкі і тыя пашкадавалі Івана Куклінскага і выпусцілі", — распавядала Раіса Аўцюшэня.

З цяжкасцю Аўцюшэні перажылі вайну. Але спакою пасля вайны не давалі польскія банды. І аднойчы Міхаіл Аўцюшэня сабраў усіх у хаце і сказаў: „Хопіць цярпець здзекі ад усіх акупантаў і бандытаў — ад савецкіх, нямецкіх, польскіх — паедзем на ўсход". Ён узяў мапу і тыцнуў пальцам у яе. І палец трапіў у Саратаўскую вобласць. Туды і паехалі. Гэта быў 1948 год.

Раіса Аўцюшэня да сённяшніх дзён захоўвае і эвакуацыйны ліст, выпісаны на імя Аўцюшэні Міхаіла Рыгоравіча. У эвакуацыйным лісце пазначаны жонка Ліда і дачка Раіса. Аўцюшэня быў накіраваны ў горад Аркадан Саратаўскай вобласці. З сабою Аўцюшэні хатняй жывёлы не бралі, а ўзялі толькі 15 цэнтнераў харчовых прадуктаў, збожжа 5 цэнтнераў і 8 цэнтнераў адзення і абутку. Больш у далёкую дарогу беларусы нічога не бралі.

У Аркадане сям'я Міхаіла Аўцюшэні пражыла некалькі гадоў. Там у іх у 1949 годзе нарадзілася яшчэ адна дачка — Ірына. Яна цяпер жыве ў горадзе Балашыха Маскоўскай вобласці.

Далёка ад Бацькаўшчыны беларусы сталі сумаваць па сваіх людзях і роднай зямлі. А ў адзін з цудоўных дзён яны вырашылі вярнуцца дамоў. На Дзятлаўшчыне ў той час жыло ўжо шмат знаёмых беларусаў з Беласточчыны, таму вярнуліся ў Дзятлава — бліжэй да маленькай радзімы.

Сяргей ЧЫГРЫН



Куклінскія, 1932 г.



ПАСВЕДЧАННЕ АБ ШЛЮБЕ
СВИДЕТЕЛЬСТВО О БРАКЕ
№ 2

Пасведчанне аб шлюбе, 1940 г.



ЭВАКУАЦИОННЫЙ ЛИСТ

Эвакуацыйны ліст Аўцюшэняў, 1948 г.



Аўцюшэні Міхаіл і Лідзія з дачкой Ірынай, 1952 г.



Куклінская Ліда



Куклінскі Іван з жонкаю і дочкамі, 1953 г.



Міхаіл і Лідзія Аўцюшэні

ISSN 0546-1960